вінна быць праведзена ачыстка колгасаў ад кулацкіх элемэнтаў, якія, пранікаючы ў колгасы, імкнуцца разлажыць колгасы, скомпромэтаваць іх работу, падарваць аўторытэт колгасу ў вачох ваколічнага бядняцка-серадняцкага насельніцтва.

Перад колгаснай сыстэмай пастаўлена ў гэтым годзе вялізарная задача, каб пасеўная плошча колгасаў ахапіла ня менш 50% усёй пасеўнай плошчы. Гэтая задача ўскладае на колгасы БССР вялізарную адказнасьць за тое, каб шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў яшчэ больш узмацніць соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі Савецкай Беларусі. Асабліва ўважліва павінны адносіцца колгасьнікі да той часткі пастановы VI-га Ўсесаюзнага Зьезду Саветаў, дзе гаворыцца аб абавязацельствах колгасаў перад дзяржавай і аб значэньні разгортваемай прамысловасьці.

Асноўнай формай гаспадарчых узаемаадносін колгасаў з дзяржаўнымі і коопэрацыйнымі організацыямі зьяўляецца дагавор аб контрактацыі. Гэты дагавор мае двухбаковы характар, які ўскладае абавязкі, з аднаго боку, на дзяржаву, а з другога боку, на колгасы перад дзяржавай.

Гаворачы аб выкананьні задач колгаснага будаўніцтва кожны колгас павінен выходзіць з неабходнасьці сваечасовага і поўнага выкананьня контрактацыйных абавязацельстваў; побач з гэтым кожны колгасьнік павінен яскрава ўяўляць сабе тое, што посьпехі колгаснага будаўніцтва зьяўляюцца вынікам таго, што Савецкі Саюз рашуча праводзіць політыку індустрыялізацыі краіны. Толькі на падставе дасягнутых посьпехаў індустрыялізацыі Савецкага Саюзу стаў мажлівым уздым сельскай гаспадаркі Савецкага Саюзу.

Вось чаму асабліва ўважліва павінны выконвацца колгасамі тыя абавязкі, якія могуць садзейнічаць пасьпяховаму вырашэньню задач індустрыялізацыі Савецкага Саюзу.

Пастановы Зьезду Саветаў аб колектывізацыі і аб саўгасным будаўніцтве трэба ўважліва вывучаць на ўсіх сялянскіх сходах, кожны селянін-адзінаасобнік павінен ведаць, што сказаў VI Ўсесаюзны Зьезд Саветаў:

> „Кожны дзень адтэрміноўкі вашага ўступленьня ў колгасы затрымлівае рост вашага дабрабыту, пазбаўляе вас мажлівасьці неадкладна карыстацца ўсімі перавагамі буйнай арцельнай гаспадаркі".

Таксама ўсе колгасьнікі павінны ведаць і прыняць усе крокі да таго, каб выканаць наступныя дырэктывы VI-га Ўсесаюзнага Зьезду Саветаў:

> „Важнейшай задачай зьяўляецца ў вясну бягучага году засеяць па меншай меры 50 мільёнаў *га* і гэтым самым пашырыць сваю пасеўную плошчу на 10 мільёнаў *га* і заняць колгасным пасевам ня менш паловы ўсяго яравога пасеўнага кліну нашай краіны.
>
> Вопыт вашага пасеву вясной 1930 году паказвае, што гэтую задачу вы выканаеце цалкам, калі зможаце правільна ў адпаведнасьці з статутам арцелі і вопытам лепшых колгасаў організаваць работу колгасьнікаў і разьмеркаваньне продуктаў у адпаведнасьці з колькасьцю і якасьцю работы колгасьнікаў".

Побач з разгортваньнем колгаснага будаўніцтва вялізарнае значэньне мае поўнае выкананьне задач, пастаўленых VI Зьездам Саветаў у справе будаўніцтва саўгасаў. Значэньне гэтай работы падкрэсьлена

VI-м Усесаюзным Зьездам Саветаў, які сказаў, што толькі адначасовае разьвіцьцё саўгасаў і колгасаў на базе растучай соцыялістычнай індустрыі забясьпечвае завяршэньне ў асноўным у гэтую пяцігодку колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

У пастанове па саўгаснаму будаўніцтву зварочваюць на сябе ўвагу тыя яго часткі, што вызначаюць значэньне саўгасаў для сялянства. Зьезд папярэдзіў аб тым, што імкненьне параўнаць саўгасы і колгасы, стварыць скорасьпелыя саўгасна-колгасныя комбінаты, а тым больш падпарадкаваць колгасы саўгасам зьяўляецца грубейшым парушэньнем політыкі савецкай улады.

Саўгасы зьяўляюцца дзяржаўным прадпрыемствам, дзе дзяржава зьяўляецца поўным гаспадаром, колгасы-ж, наадварот, зьяўляюцца прадпрыемствамі, організаванымі сялянамі, добраахвотна аграмадзіўшымі свае сродкі вытворчасьці і вядучых гаспадарку на зямлі, што належыць дзяржаве. Гаспадарамі колгасаў зьяўляюцца колгасьнікі, якім дзяржава аказвае ўсялякую падтрымку.

Аднак, з другога боку імкненьне супроцьставіць колгасы саўгасам таксама было-б шкодным. Саўгас, як гаспадарка з перадавой тэхнікай, з соцыялістычнымі формамі організацыі працы, паказвае сялянству перавагу буйнай гаспадаркі і зьяўляецца кіруючай сілай, якая палягчае паварот сялян на шлях колектывізацыі.

Вось чаму справа разгортваньня саўгасаў, справа перамогі недахопаў саўгаснага будаўніцтва, справа выкананьня саўгасамі тых вялізарных задач, што пастаўлены перад імі VI-м Усесаюзным Зьездам Саветаў,—гэта ёсьць ня толькі справа саўгасных рабочых, але і справа ўсіх колгасьнікаў, справа ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства.

Справа саўгасаў,—пастанавіў VI Усесаюзны Зьезд Саветаў,—ваша агульная справа. Кожны крок уперад у разьвіцьці саўгасаў паляпшае матэрыяльнае становішча рабочага, селяніна, палягчае далейшы рост колгасаў і ўзмацняе рост СССР.

Вось чаму Зьезд Саветаў выказаў упэўненасьць, што працоўныя масы Савецкага Саюзу з усёй энэргіяй падтрымаюць будаўніцтва колгасаў і дадуць рашучы адпор ворагам саўгасаў—кулаку, шкодніку, бюрократу і правым ухілістам.

Другая бальшавіцкая вясна павінна паслужыць для таго, каб, выконваючы яе заданьні па пашырэньні пасеўнай плошчы, узьняцьці ўраджайнасьці, контрактацыі і г. д., у той-жа час па-бальшавіцку правесьці работу ў мэтах узмацненьня і пашырэньня колгаснага і саўгаснага будаўніцтва і ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі.

VI Зьезд Саветаў адбываўся ў той час, калі вызначаліся вынікі работы ў справе барацьбы за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, за першыя два месяцы трэцяга рашаючага году пяцігодкі. Зьезд адзначыў, што гэтыя першыя месяцы паказваюць шэраг прарываў на паасобных вучастках і што гэтыя прарывы залежаць у асноўным ад недастатковай увагі, ад недастатковай мобілізаванасьці на выкананьне задач.

Вось чаму патрэбна далейшая мобілізацыя сіл для таго, каб забясьпечыць ня толькі запаўненьне вызначыўшыхся прарываў, але поўнае выкананьне плянаў бягучага рашаючага году пяцігодкі.

Важнейшым момантам у выкананьні гэтых задач зьяўляецца барацьба за якасьць работы. Барацьба за якасьць работы—гэта ёсьць барацьба за сапраўднае выкананьне плянаў. Таму, пры вырашэньні плянаў соцыялістычнага будаўніцтва ўвага павінна быць накіравана

ня толькі на колькаснае выкананьне гэтых плянаў, але і на якаснае выкананьне іх.

З ліку важнейшых задач, што стаяць перад намі, зьяўляецца задача барацьбы за зьніжэньне сабекошту. Значэньне гэтай задачы вынікае з таго, што зьніжэньне сабекошту на кожны 1% у галіне прамысловасьці дае экономію ў суме 180 мільёнаў рублёў; зьніжэньне сабекошту будаўніцтва на кожны 1% дае экономію ў суме 100 тыс. руб. Такім чынам, невыкананьне задач па зьніжэньні сабекошту адбіваецца на выкананьні вызначаных намі плянаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Вельмі часта пры вырашэньні задач соцыялістычнага будаўніцтва мы ў сучасны момант упіраемся ўжо не ў недахоп мэханічнага абсталяваньня, а ў няўменьне карыстацца гэтым мэханічным абсталяваньнем як у галіне прамысловасьці, так і ў галіне сельскай гаспадаркі. У мінулым годзе заўважан цэлы шэраг прыкладаў, калі невыкананьне задач, невыкананьне прамфінпляну тлумачылася выключна няўменьнем пераключыцца на новыя формы працы, на скарыстаньне мэханічнага абсталяваньня для работы; комбайн і іншыя складаныя машыны вельмі часта стаялі без выкарыстаньня ў той час, калі не хапала рабочых рук для выкананьня важнейшых сельска-гаспадарчых работ.

Донбас ня выконвае сваіх плянаў па выпрацоўцы каменнага вугалю дзякуючы недахопу рабочых рук у той час, калі шэраг мэханічнага абсталяваньня, якое можа замяніць гэтыя рабочыя рукі, ці зусім не выкарыстоўваецца ці выкарыстоўваецца не ў дастатковай меры.

Вось чаму на сёньняшні дзень задача ауладаньня тэхнікай зьяўляецца важнейшай задачай.

Тав. Сталін па гэтым пытаньні сказаў:

„Пара, даўно пара, павярнуцца тварам да тэхнікі; пара адкінуць стары лёзунг, аджыўшы лёзунг аб неўмяшацельстве ў тэхніку і стаць самім спэцыялістамі, знатакамі справы, стаць самім поўнымі гаспадарамі справы.

Бальшавікі павінны ауладаць тэхнікай, пара бальшавікам самім стаць спэцыялістамі. Тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі вырашае ўсё“.

Ауладаньне тэхнікай, ауладаньне той справай, якая даручаецца партыяй і савецкай уладай — вось тое, што стаіць у сучасны момант перад кожным работнікам, на кожным вучастку даручанай яму работы.

Вырашэньне задач соцыялістычнага будаўніцтва рэконструкцыйнага пэрыоду, бальшавіцкія тэмпы гэтага пэрыоду патрабуюць таго, каб усе організацыі рашучым чынам павярнуліся тварам да гэтых новых задач.

XVI зьезд партыі рашуча паставіў пытаньне аб прыстасаваньні партыйнага, професіянальнага і савецкага апарату, а таксама і іншых організацый да пасьпяховага вырашэньня гэтых задач. Ужо ідзе прыстасаваньне партыйнага апарату да задач выкананьня прамфінпляну, да задач колектывізацыі і г. д.; таксама рашуча перабудоўваецца профэсіянальны апарат. Ліквідацыя акруг, пераход на раённую сыстэму зьяўляецца тым мерапрыемствам, якое павінна садзейнічаць рашучай перабудове савецкага апарату ў адпаведнасьці з задачамі рэконструкцыйнага пэрыоду.

Перавыбары саветаў, што адбыліся напярэдадні X-га Усебеларускага і VI-га Ўсесаюзнага Зьездаў Саветаў, праводзіліся намі пад

лёзунгам рашучага павароту саветаў тварам да вытворчасьці, тварам да колектывізацыі. Вынікі справаздачна-перавыбарчай кампані паказваюць нам, што ў пэўнай меры гэтая задача намі выканана.

Аднак, было-б няправільна сказаць, што ўжо ўсё зроблена, што ўжо саветы перабудавалі сваю работу ў адпаведнасьці з задачамі сучаснага пэрыоду.

Вось чаму, гаворачы аб выкананьні задач соцыялістычнага будаўніцтва, нам трэба рашуча паставіць пытаньне аб тым, каб тая рэорганізацыя сыстэмы кіраўніцтва, якая намі праведзена, была даведзена да канца, каб пастановы партыі і ўраду аб рашучай дапамозе раённым выканаўчым камітэтам і сельсаветам як з боку матэрыяльнага, так і вылучэньнем адпаведных работнікаў, былі праведзены ў жыцьцё.

„Агромністыя задачы,—кажа VI Зьезд Саветаў,—што стаяць перад нашай краінай ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, патрабуюць перабудовы ўсёй працы саветаў і савецкага апарату, павароту іх тварам да вытворчасьці, да колгаснага будаўніцтва, рашучага перамаганьня опортунізму і адставаньня ад бальшавіцкіх тэмпаў ва ўсёй савецкай працы зьверху да нізу, організацыі строгай праверкі фактычнага выкананьня прынятых пастаноў“.

Толькі ў тым выпадку, калі палітычная актыўнасьць рабочае клясы і ўсіх працоўных знойдзе сваё організацыйнае афармленьне ў саветах, калі саветы пад кіраўніцтвам Компартыі сапраўды будуць стаяць на чале вырашэньня задач соцыялістычнага будаўніцтва,—мы будзем упэўнены ў тым, што гэтая задача пасьпяхова выконваецца што гэтыя задачы выконваюцца ў адпаведнасьці з генэральнай лініяй нашай партыі.

Пасьпяховае вырашэньне задач соцыялістычнага будаўніцтва з асаблівай вастратой ставіць перад намі пытаньне аб кадрах. Нам не хапае вельмі часта работнікаў на важнейшых вучастках соцыялістычнага будаўніцтва. Зразумела, што пытаньне аб кадрах вырашаецца савецкай краінай у масавым маштабе шляхам шырокага разгортваньня мерапрыемстваў культурнага будаўніцтва, шляхам разгортваньня культурнай рэволюцыі.

Правядзеньне ў жыцьцё ўсеагульнага абавязковага навучаньня, політэхнізацыя школы, ліквідацыя няпісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва, шырокае разгортваньне профэсіянальна-тэхнічнага навучаньня, шырокае разгортваньне высока-спэцыялізаваных навучальных устаноў, а сёньня—шырокае разгортваньне рабочай ініцыятывы за аўладаньне тэхнічнымі ведамі, за аўладаньне тэхнікай—усё гэта разам узятае садзейнічае падрыхтоўцы кадраў, забясьпечвае нам у далейшым магчымасьць атрымаць кадры для соцыялістычнага будаўніцтва.

Аднак, пры вырашэньні пытаньня аб кадрах трэба заўжды ўлічваць тое, што гэта ёсьць важнейшая задача і што гэта задача вымагае ўважлівых да яе адносін з боку ўсіх партыйных, савецкіх і іншых грамадзкіх пролетарскіх організацый.

Нам патрэбны ня проста кадры, нам патрэбны кадры пролетарскія, клясава-сьвядомыя, політычна-выхаваныя, бальшавіцка-загартаваныя кадры.

Дзякуючы посьпехам у справе соцыялістычнага будаўніцтва, паступоваму павялічэньню ўдзельнай вагі соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, рашучаму выкарчоўваньню рэштак капіталізму

ў нашай краіне, — краіна саветаў уступіла ў пэрыод социялізму, у апошні пэрыод НЭП'у, краіна саветаў вядзе барацьбу за завяршэньне пабудовы социялістычнай экономікі ў нашай краіне.

Гэта было дасягнута дзякаючы таму, што Савецкі Саюз вёў і вядзе барацьбу за перамогу социялізму на падставе генэральнай лініі партыі, што Компартыя і рабочая кляса, змагаючыся за генэральную лінію партыі, давалі рашучы руйнуючы адпор ухілам ад генэральнай лініі партыі.

Контр-рэволюцыйны троцкізм разгромлены, партыя перамагла правы ўхіл, як найбольш небясьпечны на даным этапе социялістычнага будаўніцтва. Партыя пад кіраўніцтвам Ленінскага ЦК вядзе барацьбу супроць правага ўхілу, супроць „левых“ загібаў, супроць прымірэнчых адносін да гэтых опортуністычных ухілаў. Рабочая кляса пераможа ў барацьбе за социялізм, працягваючы пад кіраўніцтвам партыі і яе Ленінскага ЦК гэтую барацьбу за генэральную лінію партыі, працягваючы барацьбу супроць ухілаў ад генэральнай лініі партыі.

Перад намі пастаўлена задача на працягу бліжэйшых дзесяц(і) год дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны ў тэхніка-экономічных адносінах. Для гэтай мэты павінен быць выкарыстан апошні пэрыод НЭП'у і апошні пэрыод НЭП'у траба скарыстаць для таго, каб усе сілы, усе здольнасьці, усе матэрыяльныя рэсурсы былі накіраваны на канчатковую перамогу социялізму.

Посьпехі социялістычнага будаўніцтва ў краіне саветаў ужо вырашылі пытаньне аб перамозе социялізму.

Социялізм у краіне саветаў перамагае, социялізм у краіне саветаў пераможа; Савецкая Беларусь, як частка Савецкага Саюзу, як форпост Савецкага Саюзу на мяжы з капіталістычным сьветам, павінна выканаць з посьпехам ускладзеныя на яе задачы ў барацьбе за социялізм, павінна лічыць справай гонару пасьпяховае выкананьне ўскладзеных на яе задач у барацьбе за социялізм.

---

П. Корчык

# Вузлавы пункт нашай працы на вёсцы*)

*(аб рэволюцыйным уздыме ў заходняй Беларусі і задачах КПЗБ)*

Мы знаходзімся перад пачаткам магутнага ўздыму рэволюцыйнай барацьбы ў вёсцы. Цэлы шэраг фактаў вострых выступленьняў сялянскіх мас супроць падатковага ярма, фашыстоўскай зямельнай політыкі, супроць абшарніцка-кулацкай эксплёатацыі, супроць фашыстоўскага тэрору і нацыянальнага ўціску, выразна гаворыць аб гэтым. Гэтыя выступленьні, якія накіраваны ня толькі супроць абшарнікаў і кулакоў, але і супроць усёй сыстэмы фашыстоўскай дыктатуры, ахопліваюць усё больш шырокія масы і маюць месца нават у найбольш глухіх мядзьведжых кутком Заходняй Беларусі.

Гэтыя выступленьні сьведчыць аб глыбокім процэсе дыфэрэнцыяцыі ў заходня-беларускай вёсцы, аб абвастрэньні клясавай барацьбы ў ёй. Фашыстоўская прэса, опэруючы перад усімі сфабрыкаванымі вынікамі выбараў у Заходняй Беларусі, стараецца ўпэўніць заграніцу і перадусім шырокія масы ў Польшчы, што ў выніку ўсёй політыкі фашыстоўскай дыктатуры ў заходня-беларускай вёсцы адбыўся востры пералом у бок адыходу мас ад рэволюцыйнай барацьбы, у бок падтрыманьня фашыстоўскай окупацыі. Былы пэпээсавец Голуўка, спэцыяліст у душэньні рэволюцыйнай барацьбы ў Зах. Беларусі, выступаючы ў сойме, цьвердзіў, што праводзячаяся ўсіленым тэмпам пасьля майскага перавароту парцэляцыя, комосацыя і ліквідацыя сэрвітутаў, ваеннае дарожнае будаўніцтва, стварэньне сеткі кулацка-асадніцкіх гаспадарчых організацый і сельска-гаспадарчай коопэрацыі, павялічэньне ў некалькі разоў крэдытаў, якія вызначаны для абшарнікаў, кулакоў і асаднікаў — вырашылі перамогу фашыстоўскай дыктатуры ў мінулых выбарах, што гэтыя мерапрыемствы спрыялі стварэньню ў Заходняй Беларусі „новага псыхолёгічнага тыпу селяніна-ґаспадара, які сядзіць на ўласным кавалку зямлі“, селяніна-гаспадара „заходняй культуры“, які вызваліўся ад уплыву маскоўскага комунізму.

Фашыстоўскай дыктатуры вышэй паказанымі мерапрыемствамі сапраўды ўдалося ўзмацніць кулацкую праслойку ў Заходняй Беларусі, што было асноўнай прадпасылкай умацаваньня саюзу беларускага нацыянал-фашызму з польскім фашызмам і яго актывізацыі па барацьбе з рэволюцыйным рухам у Зах. Беларусі, а таксама ў справе падрыхтоўкі і організацыі вайны супроць СССР.

Але ў выніку менавіта гэтых мерапрыемстваў, якія ўзмацняюць клясу абшарнікаў і кулакоў, паскораным тэмпам адбываецца паўпэ-

*) Артыкул перадрукоўваецца з часоп. „Бальшавік“ (орган ЦК КПЗБ) № 2, 1931 г.

рызацыя сялянскай беднаты і серадняцтва, абвастрэньне зямельнага голаду ў вёсцы, страшэнны рост запазычанасьці і нядоімак, узмацненьне залежнасьці эксплёатаванага сялянства ад абшарнікаў, кулакоў і асаднікаў, узмацненьне кабальнай эксплёатацыі сельска-гасадарчага пролетарыяту і мас сялянскай беднаты. У выніку гэтай політыкі павялічаецца з кожным днём мільённая армія беспрацоўных у вёсцы, якія пазбаўлены месца ў процэсе вытворчасьці.

Паглыбленьне гаспадарчага крызісу, у першую чаргу аграрнага, які ўсім цяжарам кладзецца на плечы сельска-гаспадарчага пролетарыяту і эксплёатаванага сялянства, яшчэ больш прысьпяшае процэс дыфэрэнцыяцыі ў вёсцы; руіна ўсё больш ахоплівае ня толькі масы вясковай беднаты, але і самыя шырокія пласты серадняцтва. Падаткі павіннасьці і квотніцтва — гэтая асноўная форма эксплёатацыі капіталам сялянскіх мас — страшэнна ўзрастаюць з кожным годам. Дзеля выплаты падаткаў, нядоімак, пазычак і процантаў па іх, сялянская бедната і серадняцтва, у выніку амаль поўнай адсутнасьці якіх-небудзь заробкаў, прымушаны выкідваць на рынак ўвесь мізерны ўраджай са сваіх карлікавых і адсталых гаспадарак і паніжаць да галоднай нормы свой жыцьцёвы ўзровень. Вялікае паніжэньне цэн як на збожжавыя продукты, гэтак і на тавары жывёлагадоўлі, уплывае яшчэ больш востра ў гэтым напрамку і стварае асабліва спрыяючыя ўмовы для закабаленьня эксплёатаваных мас сялянства і разгулу квотніцтва. Падатковы націск прымушае серадняцкія і асабліва-ж бядняцкія масы прадаваць свой хлеб па нізкіх цэнах з тым, каб пасьля купляць гэты-ж хлеб па ўзьвінчаных высокіх цэнах ад кулакоў, абшарнікаў і спэкулянтаў. Адначасова ўсьцяж растуць цэны на артыкулы першай патрэбы (запалкі, нафта, соль і інш.), як вынік высокіх картэльных цэн пры монополістычным характары капіталу. У гэтых варунках недаяданьне, распродаж жывога і мертвага інвэнтару, нават у гады адносна добрых ураджаяў, зьяўляецца пастаянным зьявішчам сярод асноўных мас эксплёатаванага сялянства Зах. Беларусі; неўраджаі-ж, якія робяцца ўсё больш частымі і зьяўляюцца ў першую чаугу вынікам узрастаючага руйнаваньня мас, прымаюць разьмеры галоднай катастрофы, як гэта мела месца ў апошнія гады ў паўночна-ўсходняй частцы Зах. Беларусі.

Якую ролю адыгрывае ў справе руйнаваньня шырокіх мас сялянства ўсё ўзрастаючае падатковае ярмо, якое патрэбна фашыстоўскай дыктатуры ў першую чаргу дзеля організацыі вайны супроць СССР, дзеля ўтрыманьня фашыстоўскай окупацыі ў паняволеных ЗБ і Заходняй Украіны, дзеля барацьбы з ўсё ўзрастаючым рэволюцыйным рухам на ўсёй Польшчы, сьведчаць наступныя даныя, узятыя намі з справаздачы Віленскай Гандлёва-Прамысловай Палаты за 1929 г. аб гаспадарчай сытуацыі ў Заходняй Беларусі.

Сума паступленьняў дзяржаўных падаткаў ўзрастае з году ў год:

| | |
|---|---|
| 1926/27 г. . . . . . . . | 44.788.000—100% |
| 1927/28 г. . . . . . . . | 54.838.900—122% |
| 1928/29 г. . . . . . . . . | 60.976.000—134[1] |

Сума беспасрэдных падаткаў на аднаго жыхара ў 1928/29 г. узрастае ў параўнаньні з 1911 г. на 310%. Да гэтага неабходна яшчэ дадаць аграмадную колькасьць падаткаў, якія накладаюцца мясцовымі

[1]) Без 10% надзвычайнага падатку па Беластоцкай акрузе, які ў 1927/28 г. складаў 1.487.000, значыцца, уключаючы гэты падатак, разьмер падаткаў у 1928/29 г. дасягае звыш 140% у параўнаньні з 1926/27 г.

самаўрадамі, разьмеры якіх часта перавышаюць суму дзяржаўных падаткаў (так, напрыклад, у Дзісьненскім павеце ў мінулым годзе мясцовыя падаткі перавышалі ў тры разы дзяржаўныя).

Пры ўзрастаючай паўпэрызацыі працоўных мас сялянства шпаркім тэмпам узрастаюць нядоімкі; так, напрыклад, сума нядоімак, ня лічачы нядоімак па надзвычайнаму 10% падатку, у Віленскай акрузе ўзрасла з 10.224 тысяч зл. на 1/IV-28 г. да 12.251 тыс. на 1/IV-29 г. (узрост на 19%), а ў Палескай — яшчэ больш востра: з 14.374 тыс. зл. у 1928 г. да 24.315 тыс. зл. у 1929 (узрост на 69%).

Такім чынам, сума нядоімак у адносінах да сумы ўжо спагнаных падаткаў складала:

| Акруга | 1927/28 гады | | | 1928/29 гады | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сума спагнан. падаткаў | Сума нядоімак | % адносіны нядоімак да спагн. падатку | Сума спагнан. падаткаў | Сума нядоімак | % адносіны нядоімак да спагн. падатку |
| Беласток . . | 20.370.000 | 18.153.000 | 89 | [1] | [1] | [1] |
| Вільня . . . | 17.353.000 | 10.244.000 | 59 | 17.222.000 | 12.251.000 | 69 |
| Палесьсе . . | 17.115.000 | 14.374.000 | 84 | 20.285.000 | 24.515.000 | 120 |

Гэтая аграмадная запазычанасьць толькі па адных дзяржаўных падатках, якая выражаецца ў Палесьсі звыш 25 зл. на кожнага жыхара (г. зн. у сярэднім звыш 150 зл. на адну сялянскую гаспадарку), узрастае з кожным годам, і ў наступныя гады, аб якіх мы ня маем афіцыйных даных, бязумоўна, яшчэ значна большая.

Да гэтага неабходна дадаць ня менш значныя нядоімкі па мясцовых падатках, шматлікіх павіннасьцях і штрафах, аплаце кабальных крэдытаў і процантаў па іх, выдатках, якія накладаюцца пры правядзеньні комосацыі, ліквідацыі сэрвітутаў і г. д. Як паведамляюць таварышы з Гарадоцкага раёну Беластоцкае акругі, нядоімкі бядняцкіх гаспадарак дасягаюць у бягучым годзе да 500-600 зл. Аб разьмеры адміністрацыйных штрафаў сьведчыць факт з Пінскага павету, дзе на вёскі, якія адмовіліся галасаваць на дзяржаўныя сьпісы, накладзены штрафы да 2.000 зл. і больш, а такіх повадаў фашыстоўскі ўрад мае шмат. Усялякае актыўнае выступленьне сялян, усялякі ўдзел у антыфашыстоўскіх організацыях, падпіска на рабоча-сялянскі друк і г. д. караецца праз накладаньне штрафаў пад тым, альбо іншым повадам. Так, напрыклад, у вёсцы Хвоева Новагрудзкага павету сябры мясцовага гуртка ТБШ аштрафаваны старастай на 250 зл. кожны.

Сьціснутыя ў абцугох непамернага падатковага ярма і павіннасьцяй зруйнаваныя сяляне пад пагрозай экзэкуцый трапляюць у поўную кабалу квотнікаў, якімі, галоўным чынам, зьяўляюцца тыя-ж абшарнікі, кулакі і асаднікі. Да якіх граніц даходзіць квотніцтва ў вёсках Зах. Беларусі характарызуюць наступныя лічбы процантаў, якія аплачваюцца сялянствам за каротка-тэрміновыя пазыкі. У Віленшчыне гэтыя проценты хістаюцца ад 60% да 108% у год, у Палесьсі — ад 36% да 120%, а ў Новагрудчыне — ад 60% да 144%. Яшчэ больш кабальныя ўмовы пазык у натуры, да якіх часта прымушаны зварочвацца бяд-

[1]) Даных па Беластоцкай акрузе за 1928/29 г. ня маецца.

няцкія гаспадаркі дзеля здабыцьця насеньня, асабліва-ж у неўраджайныя гады. Процанты гэтыя дасягаюць у Палесьсі да 200%, у Навагрудчыне да 300%, а ў Беласточчыне і Віленшчыне нават да 400% у год. Гэтыя даныя, якія мы прыводзім сьледам за Л. Тварэцкім („Заданьня і цэле работнічай спулдзельчосьці крэдытовай" „Рольніцтва" люты 1931 г.), адносяцца да 1927 г. і, бязумоўна, у яшчэ большай меры актуальны і цяпер. Гэты разгул квотніцтва, пад протэктарам фашыстоўскага ўраду, ушчэнт закабаляе сялянскую беднату абшарнікам і кулацтву, ствараючы варункі для найбольш кабальных форм эксплёатацыі вёскі.

Фашыстоўскі ўрад няшчадна выціскае падаткі і нядоімкі, распрадаючы з ліцытацыі сялянскую маемасьць, жывы інвэнтар, хатнія бэбахі. Нават, калі ўзяць офіцыйныя даныя, якія далёка не адбіваюць сапраўднага становішча, мы атрымаем наступны яскравы малюнак, як выціскаюцца падаткі і нядоімкі. У 1927-28 г. на тэрыторыі Віленскае акругі мела месца 12.747 экзэкуцый за нядоімкі; у 1928-29 г. лік іх узрастае да 25.975 (узрост на 104%), а ў 1929-30 г. да 29.843 (узрост на 134%) і гэта тады, калі ў выніку катастрофальнага голаду ў Віленшчыне і ўрастаючай барацьбы мас урад прымушаны быў адтэрмінаваць уплату шэрагу падаткаў на 1931 г. Яшчэ больш яскравы малюнак у Палесьсі, дзе ў 1927-28 г. праведзена 16.490 экзэкуцый, у 1928-29 г. 37.241 (узрост на 126%). Офіцыйных даных па Палесьсі за 1929/30 г. і па Беластоцкай акрузе за ўвесь час мы ня маем, але па матэрыялах з месц відаць, што тэмп росту падатковых экзэкуцый шалёна павялічваецца і ахоплівае ўсю тэрыторыю Заходняй Беларусі.

Цяжар падатковага ярма ў бягучым годзе яшчэ больш узрос. Досыць паказаць на тое, што зацьверджаны на 1931/32 г. фашыстоўскі соймавы бюджэт, ня гледзячы на жорсткі гаспадарчы крызіс і вострае зьніжэньне цэн на сельска-гаспадарчыя продукты, зьяўляецца толькі нямнога меншым за леташні трохмільярдавы бюджэт, ды і то гэтае зьмяншэньне выабражальнае, бо ўрад пераклаў аграмадныя сумы з дзяржаўнага бюджэту на мясцовыя самаўрады. Адначасна ўведзены дадатковы 10% падатак, а таксама пашыраны падатак ад даходаў на заработную плату, павялічаны шэраг ускосных падаткаў (запалкі, соль і інш). Да гэтага трэба дадаць значнае павялічэньне цяжараў на ўзмоцнена праводзячаеся дарожнае будаўніцтва (стварэньне спэцыяльнага дарожнага фонду). У Заходняй Беларусі падатковы націск, які быў некалькі аслаблены з палітычных меркаваньняў у часе выбарчай кампаніі, узмацняецца ў шмат разоў, бо з мэтай захаваньня бюджэтнай роўнавагі і паскоранай падрыхтоўкі вайны, фашыстоўскі ўрад з асаблівай настойлівасьцю прыступае да выціскаьня ўсіх нядоімак, якія былі адтэрмінаваны па розных меркаваньнях у папярэднія гады.

Вось у агульных рысах малюнак таго „дабрабыту" і „росквіту" шырокіх мас сялянства Заходняй Беларусі ў выніку ўсёй палітыкі фашыстоўскай дыктатуры. І бязумоўна, самі фашыстоўскія гершты ня вераць у тое, што ім удалося ў выніку сваёй палітыкі перавыхаваць масы ў духу орыентацыі на фашыстоўскі захад і пазбавіцца ад уплыву комуністычнага ўсходу. Той-жа Голуўка, сцьвярджаючы, што адзіным сур'ёзным супраціўнікам фашыстоўскай дыктатуры ў Заходняй Беларусі былі організацыі антыфашыстоўскага рабоча-сялянскага блёку на чале з Компартыяй, констатуе, што толькі шляхам нячуванага тэрору і нахабных фальсыфікацый фашызму ўдалося атрымаць сваю „перамогу".

У гэтым нам дапамог пан Пужак з ППС у галоўнай выбарчай камісіі, якая пры дапамозе графолёга скасавала комуністычныя дзяржаўныя сьпіскі, сярод іх таксама сьпіскі „Змаганьня". Калі-ж мясцовыя комуністычныя сьпіскі наогул ня трапілі ў рукі акруговых выбарчых камісій, дык гэта сьведчыць аб тым, што наша адміністрацыя дзейнічае спраўна і энэргічна... Адміністрацыя ўмее душыць комунізм".

Вось прызнаньне, з нахабным цынізмам выказанае праз Голуўка з трыбуны фашыстоўскага сойму. Мы тут ня будзем спыняцца на гэтых мэтодах душэньня рэволюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. Сотні і тысячы арыштаваных, разгром рэволюцыйных організацый, забойствы і катаваньні актыўных рабочых і сялян, шмат-тысячныя штрафы і пагрозы карных экспэдыцый для неакорлівых вёсак гавораць самі за сябе.

Узрост рэволюцыйнай барацьбы эксплёатаваных сялянскіх мас відавочны і ў корані абвяргае сфабрыкаваную фашыстоўскую выбарчую арытмэтыку. Гэтая барацьба ў цяперашні час выяўляецца перад усім у выступленьнях супроць фашыстоўскага падатковага ярма, у масавым непляцяжы падаткаў, у актыўным адпоры пры падатковых экзэкуцыях.

З усіх куткоў Зах. Беларусі даходзяць весткі аб узросьце гэтай барацьбы. Можна прывесьці дзесяткі старонак фактаў, якія сьведчаць аб гэтым. Прывядзем толькі некаторыя з іх.

У Гарадоцкім раёне зруйнаваныя сялянскія масы ня могуць купляць найбольш неабходных рэчаў, ня плоцяць падаткаў і ня выконваюць шарваркаў. Усё часьцей-гусьцей выпадкі продажу салянскае маемасьці з ліцытацыі. Маюцца вёскі, якія ня плоцяць падаткаў ужо 2 гады, нядоімкі дасягаюць да 500-600 злот. на гаспадарку.

У вёсцы Плюцічах Беластоцкае акругі ў часе адабраньня ў аднэй удавы апошняй каровы за падаткі сялянка кінулася з сякерай на экзэкутара, сяляне ёй дапамаглі і адабралі карову. Праз некалькі дзён прыехаў экзэкутар з трыма паліцэйскімі і разам з солтысамі пачалі конфіскаваць што ў каго пападалася: падушкі, вопратку і інш. Сяляне сабраліся вялікім натоўпам, напалі на экзэкутара, прагналі яго і паліцыю і адабралі сваю маемасьць назад.

У вёсках Баластоцкае, Горадзенскае і Баранавіцкае акруг сяляне ня плоцяць падаткаў і даюць адпор экзэкутарам, ня купляюць прадаваемай з ліцытацыі маемасьці. У вёсках Бандары і Аліманы Горадзенскае акругі сяляне прагналі экзэкутара і паліцыю; у Азёрскім раёне сяляне стралялі ў экзэкутара, які пасьля гэтага адмовіўся ад пасады; у Ліпках і ваколічных вёсках адмаўляюцца ад выконваньня шарваркаў і спалілі маёнтак.

У Берасьцейскай акрузе пры будове шосэйных дарог значная частка сялян адмаўляецца выходзіць на шарваркі. Адміністрацыя пагражае накласьці дадатковыя падаткі і штрафы. Экзэкуцыі праводзіцца фашыстоўскім урадам за нядоімкі, а таксама праз кулацкія касы Стэфчыка, якім сяляне беднякі і серадцякі ня могуць плаціць узятых пад высокія проценты пазык.

У вёсцы Камароўка тэй-жа акругі большай частцы сялян пагражаюць экзэкуцыі за нявыплачаныя падаткі.

У вёсцы Вышкі Бельскага раёну сяляне прагналі з вёскі сэквэстратара і паліцыянта, якія прышлі адбіраць рэчы за нядоімкі. Праз некалькі дзён прышоў вялікі атрад паліцыі і забраў у сялян усё, што яны мелі.

У вёсцы Гарадавічы ў Віленшчыне сяляне адмовіліся плаціць падаткі, у вёску наехала цэлая армія саквэстратараў, зрабіла опісы маемасьці і вызначыла 100 ліцытацый.

Гэта толькі невялічкая вязанка фактаў з колькасьці шматлікіх выпадкаў барацьбы сялянскіх мас супроць падатковага ярма за апошні час. Да гэтага трэба дадаць ня менш яскравыя факты ўсё больш частага адпору пры комосацыі і ліквідацыі сэрвітутаў на ўсёй тэрыторыі Зах. Беларусі. Нярэдка выступленьні сялянскіх мас прымаюць формы падпалу абшарніцкіх маёнткаў; з Берасьцейскае акругі паведамляюць, што там мела месца звыш 20 падпалаў абшарніцкіх маёнткаў; віленская прэса паведамляе аб значнай колькасьці падпалаў у Лідзкай акрузе; у Беластоцкай акрузе пасьля выбараў у сойм сяляне падпалілі будынкі старшыні і сябра абвадовай выбарчай камісіі, актыўных сяброў мясцовай фашыстоўскай організацыі. У шэрагу месц сяляне аказвалі супраціўленьне ўладам пры спробах прымусіць адкрыта галасаваць на сьпісы ББ. Рэволюцыйная актыўнасьць сялянскіх мас праяўляецца ў дэмонстрацыях і мітынгах, у організацыі дружын самаабароны і вышукваньні зброі для адпору поліцыі і фашыстоўскім бандам. Яскравай ілюстрацыяй, якая характарызуе распаленую атмосфэру ў вёсцы, зьяўляецца ніжэй зьмешчанае паведамленьне з крэсавых фашыстоўскіх газэт.

„На працягу апошніх месяцаў злачыннасьць у Палесьсі разьвіваецца прама ў пагражаючых разьмерах, асабліва-ж у Пінскім павеце, дзе толькі на працягу двух месяцаў статыстыка адзначыла 28 забойстваў і 8 цяжкіх параненьняў, пераважна на грунце конфліктаў пры самавольным вырубаньні лесу.

Некалькі дзён таму назад праведзены вобыскі ў вёсцы Рэчыца, Пінскага павету па поваду забойства ляснога вартаўніка; у 4-х хатах знойдзена звыш 60 стрэльбаў. Цікава, колькі стрэльбаў можна-б знайсьці ва ўсёй вёсцы. Гэтыя выпадкі ні ў якім разе не зьяўляюцца спорадычнымі.

Пэрыод выбарчай кампаніі даў сябе знаць настолькі моцна, што *Пінская прокуратура намерваецца ўвайсьці з прапановай у міністэрства юстыцыі аб увядзеньні палявых судоў на тэрыторыі Пінскага павету*".

Усе гэтыя факты з бясспрэчнай яскравасьцю сьведчаць аб тым, што накапіўшаяся рэволюцыйная энэргія мас усё часьцей прыводзіць да выбухаў і сыгналізуе аб шпарка надыходзячай хвалі абвостраных баёў, якія пры актыўным кіраўніцтве нашай партыі будуць перарастаць у рашучыя баі за ўладу. На прыкладзе падзей у Зах. Украіне ўвосень мінулага году мы бачым, у якія вострыя формы выліваецца накапіўшаеся рэволюцыйнае нездавольства мас і які размах яно прымае. У варунках далейшага паглыбленага гаспадарчага крызісу ў Польшчы і крызісу фашыстоўскай дыктатуры, у варунках пагрозы вайны, якая ўжо непасрэдна навісла, у варунках далейшага націску фашыстоўскага ўраду на працоўныя масы і далейшага ўзмацненьня нацыянальнага ўціску, мы павінны мець выразную пэрспэктыву, што ўжо ў бліжэйшы час рэволюцыйныя падзеі ў Зах. Беларусі будуць разьвівацца на больш шырокай базе. Формы гэтай барацьбы могуць быць самымі рознастайнымі аж да партызанскіх выступленьняў уключна. Трэба памятаць, што вынікі выбарчай кампаніі ў Зах. Беларусі, наўпрэкі цьверджаньням фашыстоўскай дыктатуры і яе нацыянал-і соцыял-фашыстоўскіх прыхвасьняў, ня толькі не аслабілі клясавых антагонізмаў у вёсцы, а яшчэ больш узмацнілі іх; нянавісьць мас супроць

фашыстоўскай окупацыі і яе саюзьнікаў у шмат разоў узрасла, а энэргія мас, ня гледзячы на тэрор, прарвецца з яшчэ большай шпаркасьцю і сілай у форме актыўных масавых выступленьняў.

Усё гэта ўскладае на нашу партыю, як адзінага кіраўніка барацьбы мас, надзвычайнай важнасьці задачы, вымагае падняцься яе баявой актыўнасьці, асаблівай чуласьці да ўсіх процэсаў, якія адбываюцца ў масах, цясьнейшай сувязі з масамі, каб быць ініцыятарам, організатарам і кіраўніком іх барацьбы, каб здолець сваечасова ахапіць сваім уплывам, стаць на чале ўсялякага роду стыхійных выступленьняў мас і ўзьняць іх на вышэйшую ступень. Падзеі ў Зах. Украіне зьяўляюцца найбольш яскравым прыкладам таго, да якіх вынікаў прыводзіць невыстарчальная актыўнасьць партыі, слабая сувязь з масамі і адставаньне ад ходу разьвіцьця рэволюцыйнай барацьбы. КПЗУ ня здолела стаць на чале стыхійнага руху мас супроць окупацыі і ўзьняць яго на вышэйшую ступень. Прычыны гэтага ляжаць у памылковай ацэнцы сытуацыі, недаацэнцы рухавых сіл рэволюцыі і процэсу радыкалізацыі мас, у корані няправільных адносінах да стыхійных форм рэволюцыйнай сялянскай барацьбы, ў адарванасьці партыі ад мас, у невыстарчальным кіраўніцтве з яе боку штодзеннай барацьбой мас. Менавіта адарванасьць ад мас спрыяла таму, што нават тады, калі КПЗУ пачала ўсьведамляць свае памылкі і выпраўляць іх, яна не змагла ў выніку слабай сувязі парторганізацыі з масамі стаць на чале іх барацьбы і кіраваць ёю.

Шэраг фактаў сыгналізуе, што і ў нас у гэтай галіне маюцца буйнейшыя недахопы. У часе падзей у Зах. Украіне парторганізацыі не разгарнулі шырокай чыннасьці для мобілізацыі мас на актыўныя выступленьні дзеля падтрыманьня змагаючыхся мас Зах. Украіны, дзеля завастрэньня барацьбы супроць фашыстоўскай окупацыі ў Зах. Беларусі. Выступленьні сялянскіх мас супроць падаткаў, шарваркаў і фашыстоўскай зямельнай політыкі часта праходзяць па-за нашым кіраўніцтвам. Актыўнасьць парторганізацый усё яшчэ адстае ад узрастаючай актыўнасьці мас. АК не надаюць належнай увагі кіраўніцтву вясковымі організацыямі. Усё гэта стварае небясьпеку, што ўзрастаючая рэволюцыйная энэргія мас можа пайсьці па лініі стыхійных выбухаў, без належнага ахопу і кіраўніцтва з боку нашай партыі. А гэта ў сваю чаргу стварае небясьпеку перахопліваньня рэволюцыйных настрояў мас праз соцыял-нацыянал-і народніцка-фашыстоўскія партыі для таго, каб задушыць барацьбу мас.

Дзе-ж у даных варунках тое асноўнае зьвяно, за якое мы павінны ўхапіцца, каб мобілізаваць шырачэзныя масы сялянства на барацьбу супроць фашыстоўскай дыктатуры, аб'яднаць разрозьненыя баі і стыхійныя ўзрывы і накіраваць іх у адзін магутны рэволюцыйны струмень барацьбы пролетарыяту за ўладу. Гэтым цэнтральным зьвяном у нашых конкрэтных варунках на данай стадыі разьвіцьця рэволюцыйнага руху зьяўляецца організацыя барацьбы шырокіх мас вёскі супроць падатковага ўціску. ЦК нашай партыі сваечасова ўлічыў усё аграмаднае значэньне гэтай барацьбы і рашуча падкрэсьліў яе значэньне, як „падставовага зьвяна для таго, каб падняць барацьбу мас на вышэйшую ступень, падвесьці гэтыя масы ўшчыльную да барацьбы за зямлю бяз выкупу, накіраваць яе ў рэчышча барацьбы пролетарыяту за ўладу“ (Рэзалюцыя IV Пленуму ЦК КПЗБ). Высунуты нашай партыяй больш году таму назад лёзунг „ні граша фашыстоўскаму ўраду голаду, беспрацоўя, тэрору і вайны“ зьяўляецца ў гэты час асноўным лёзунгам, які мобілізуе шырокія масы на барацьбу супроць

фашыстоўскай дыктатуры і вызначае ўвесь характар антыпадатковай барацьбы.

У цяперашні час выступленьні супроць падаткаў і адпор экзэкуцыям ахопліваюць усё больш шырокія масы, ахопліваюць усё новыя і новыя мясцовасьці. Хваля сялянскіх выступленьняў нарастае ва ўсёй Польшчы, а на Зах. Украіне яна ўжо прыняла вострыя формы падпалаў абшарніцкіх маёнткаў, а часамі ўзброенага адпору карным экспэдыцыям. Адначасна гэтыя выступленьні, якія адбываюцца ў варунках нарастаючага палітычнага крызісу фашыстоўскай дыктатуры, супадаюць з магутным уздымам барацьбы пролетарыяту і вострымі выступленьнямі беспрацоўных. У гэтых варунках перад нашай партыяй стаіць задача ўцягненьня ў гэтую барацьбу шырачэзных мас і разгортваньня яе ў арганізаванае адмаўленьне ад плацяжу падаткаў і ў актыўны адпор мас пры іх спагнаньні. Гэтая задача зусім правільна пастаўлена студзеньскімі рашэньнямі нашага ЦК у цэнтры ўвагі нашых вясковых організацый.

Організацыя ў шырокім разьмеры адмаўленьня ад плацяжу падаткаў і актыўнага адпору экзэкуцыям у цяперашні час мае зусім іншы характар, чым лёзунг байкоту падаткаў, які быў высунуты нашай партыяй у 1924 г. Тады і цяпер мы маем прынцыпова розныя як варункі, гэтак і тактычныя задачы гэтай барацьбы.

Становішча ў Зах. Беларусі ў даны пэрыод рэзка адрозьніваецца ад становішча 1923/24 г. Вострае рэволюцыйнае напружаньне ў заходня-беларускай вёсцы 1923-24 г. вынікала перад усім з мясцовых спэцыфічных варункаў, з глыбокага незадаволеньня сялянскіх мас Зах. Беларусі окупацыйным рэжымам і насіла характар ар'ергадных баёў пасьля паражэньня нямецкага і польскага пролетарыяту на фоне аслабленага тэмпу разьвіцьця рэволюцыйнай барацьбы ва ўсёй Польшчы. Гэтымі ар'ергарднымі баямі, якія насілі формы партызанскіх выступленьняў, быў ахоплены толькі вузкі вясковы актыў, асноўная-ж маса сялянства ня была яшчэ ўцягнута ў шырокую штодзенную барацьбу і ў значнай меры знаходзілася пад уплывам соцыял-нацыянал-і народніцка-фашыстоўскіх партый. Тады мы мелі слабае разьвіцьцё рабочага руху ў Зах. Беларусі; сувязь гарадзкога пролетарыяту, у пераважнай большасьці сваёй польскага і яўрэйскага, з масамі беларускага сялянства была вельмі слабая; саюз рабочых і сялян і гегемонія ў ім пролетарыяту ня былі яшчэ дастаткова замацаваны. Партыя наша — кіраўнік і організатар барацьбы мас — у той час толькі што ўступіла на шлях усьведамленьня бальшавіцкіх прынцыпаў стратэгіі і тактыкі, у ёй яшчэ былі моцны перажыткі чуждай ідэолёгіі (бундызм, соцыял-дэмократызм, эсэраўшчына), што знайшло сваё яскравае выражэньне ў так званай „сэцэсіі"; партыя ня мела яшчэ ні выстарчальнага вопыту, ні выстарчальнай сувязі з масамі, ні ўзгадаваных і загартаваных у баёх кадраў.

Цяперашні-ж уздым рэволюцыйнай хвалі ў Зах. Беларусі зьяўляецца вынікам глыбокага крызісу фашыстоўскай дыктатуры, складанай часткай магутнага ўздыму рэволюцыйнага руху на ўсёй Польшчы, у варунках глыбокага сусьветнага экономічнага крызісу і ўздым рэволюцыйнай хвалі ў важнейшых капіталістычных краёх і колёніях, у варунках шалёнай падрыхтоўкі імпэрыялістычнай вайны. За мінулыя 5-6 год процэс дыфэрэнцыяцыі ў заходня-беларускай вёсцы далёка пайшоў наперад, выклікаючы рэзкае абвастрэньне клясавай барацьбы, павышэньне ўдзельнае вагі ў барацьбе сялянскіх мас сельска-гаспадарчага пролетарыяту і вясковай беднаты, пры адначасным узросьце актыў-

насьці беларускага кулацтва і выказьніка яго інтарэсаў, беларускага нацыянал-фашызму, у барацьбе з рэволюцыйным рухам, у падрыхтоўцы вайны супроць СССР. У штодзенную барацьбу ўпягнуты шырокія масы, якія накапілі ў гэтай барацьбе дастатковы вопыт і ўсё больш пераконваюцца ў ілжывасьці, здрадніцтве соцыял-нацыянал-і народніцка-фашыстоўскіх партый, усё больш зжываюць ілюзіі адносна іх. Масы на ўласным карку выпрабавалі ўсе прыгожасьці як дэмократычна-парляманцкага, гэтак і фашыстоўскага рэжыму, здолелі навочна пераканацца ў вялізарных дасягненьнях пролетарыяту і працоўных мас сялянства пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі ў СССР. У цяперашні час маем у наяўнасьці значнае напружаньне барацьбы пролетарыяту Зах. Беларусі і ўзмацненьне яго гегемоніі ў сялянскім нацыянальна-вызваленчым руху; гэта выражаецца ў ажыўленай забастовачнай барацьбе, шырокім і вострым руху беспрацоўных, у паасобных, пакуль яшчэ, палітычных стачках і ў барацьбе за вуліцу.

За гэты час партыя наша таксама значна вырасла, загартавала сябе ў баёх, набыла ўласны багаты баявы вопыт, сумела выкаваць і праверыць сваю лінію ў баёх, ва ўпартай і непрымірымай барацьбе з правымі і „левымі“ ўхіламі, стварыла густую сетку сваіх організацый, трывала зьвязаных з масамі, вылучыла значны актыў, які вырас з мас, які здольны кіраваць баямі мас.

У 1924 г. у паказаных вышэй варунках, калі асноўная маса сялянства ў ЗБ ня была яшчэ ўцягнута ў шырокую штодзенную барацьбу, задача нашай партыі была — паасобныя вострыя выбухі, якія прынялі характар партызанскіх выступленьняў, перавесьці на рэйкі шырокай масавай барацьбы на грунце штодзенных патрэб мас. Лёзунг байкоту падаткаў як лёзунг, які закранае патрэбы найбольш шырокіх мас, быў тады галоўным зьвяном дзеля правядзеньня гэтага тактычнага павароту — павароту да масавай барацьбы на грунце штодзенных патрэб мас. Гэты паварот даў выразныя дадатныя вынікі: мы з найменшай стратай і ў найбольшым парадку правялі адступленьне ў такіх варунках, калі з прычыны об'ектыўных і суб'ектыўных фактараў, прыняцьце генэральнай бойкі, якая навязвалася нам клясавым ворагам, нямінуча пагражала і аслабленьнем сіл усяго рэволюцыйнага фронту. А гэта дало нам магчымасьць пашырыць фронт барацьбы, уцягнуць новыя масы і рыхтаваць сілы дзеля пераходу ў наступленьне ў адпаведных варунках.

Зусім іншы характар і іншае значэньне мае пастаўленая намі цяпер задача організацыі неплацяжу падаткаў у варунках насьпяваньня ў шпаркім тэмпэ тэндэнцый рэволюцыйнага крызісу ва ўсёй Польшчы. Гэта задача азначае разгортваньне шырокага контр-наступленьня, падцягваньне да лініі фронту рэзэрваў, у варунках, калі барацьба прымае форму ўсё больш жорсткіх сутычак, калі хутка за гэтым пойдуць рашучыя клясавыя баі за ўладу.

Задача паўсямеснай організацыі адмаўленьня ад плацяжу падаткаў паўстане перад партыяй, калі варункі для гэтага пасьпеюць, г. зн. тады, калі як у самой Зах. Беларусі, так і ва ўсёй Польшчы барацьба яшчэ больш абвострыцца і ахопіць яшчэ больш шырокія масы, калі партыя наша зможа ўзьняць гэтую барацьбу на вышэйшую ступень, якая вядзе непасрэдна да барацьбы за зямлю, за ўладу, за вызваленьне фашыстоўскай дыктатуры. Але, ня высоўваючы яшчэ ў даны момант гэтай задачы — паўсямеснай організацыі неплацяжу падаткаў — мы ўжо цяпер павінны паставіць задачу організацыі неплацяжоў падаткаў у тых мясцовасьцях, дзе варункі для гэтага насьпелі, імкнуцца аб'яднаць маючыяся ўжо разьядналыя выступленьні супроць падаткаў,

не дапускаць да іх ізоляваньня, мобілізаваць масы на актыўнае падтрыманьне гэтых выступленьняў і пашырыць барацьбу на тэрыторыю суседніх раёнаў. Гэта важнейшая задача ў цяперашні час, зьдзяйсьненьне якой створыць прадпасылкі для пасьпяховага разгортваньня паўсямеснага неплацяжу падаткаў і адпору пры іх спагнаньні ў паказаных намі вышэй варунках.

Галоўная ўмова дзеля зьдзяйсьненьня гэтай бліжэйшай задачы— цясьнейшая сувязь з масамі, улічваньне настрояў мас, грунтоўная як політычная, гэтак і організацыйная падрыхтоўка выступленьняў. Барацьба супроць падаткаў лучыць самыя шырокія масы вясковай беднаты і серадняцтва як масы, ужо грунтоўна ахопленыя нашым уплывам, так і масы, якія знаходзяцца яшчэ пад уплывам соцыял-нацыянал- і народніцка-фашыстоўскіх партый. Разгортваньне гэтай барацьбы—лепшы мэтод у даных варунках дзеля здэмаскаваньня фразэолёгіі гэтых партый і іх правадыроў, дзеля выяўленьня ўсёй ілжывасьці выбарчых абяцанак фашыстоўскай дыктатуры і яе агентаў, дзеля вырываньня мас з-пад іх уплыву, стварэньня і ўзмацненьня адзінага фронту барацьбы мас на грунце іх штодзенных патрэб пад кіраўніцтвам нашай партыі. У гэтых варунках асабліва важнае значэньне набывае стварэньне шырокай сеткі сялянскіх камітэтаў барацьбы, абраных шырокімім масамі як органаў адзінага фронту барацьбы мас, задача якіх грунтоўна падрыхтоўваць і організоўваць гэтую барацьбу, пашыраць яе фронт і ўцягваць у яе масы, якія знаходзяцца яшчэ пад уплывам сацыял-нацыянал-і народніцка-фашыстоўскіх партый.

Адмаўленьне ад плацяжу падаткаў і адпор мас экзэкуцыям наносяць асабліва адчувальныя ўдары фашыстоўскай дыктатуры, якая б'ецца ў ціскох экономічнага і політычнага крызісу. Шырокі антыпадатковы рух ставіць масы тварам у твар з апаратам фашыстоўскай дыктатуры, мобілізуе масы на беспасрэдныя выступленьні супроць улады, на беспасрэдную барацьбу за зямлю, падрывае ваенныя пляны фашызму і дэзорганізуе яго дзяржаўны апарат. Гэты рух зьявіцца важным фактарам далейшага паглыбленьня крызісу фашызму, магутным штуршком дзеля разьвіцьця рэволюцыйнай барацьбы. Фашыстоўская дыктатура здае сабе справу аб значэньні гэтага руху і дзеля гэтага прымае ўсе захады для задушэньня ў корані ўсялякіх антыпадатковых выступленьняў. Адгэтуль вынікае, што пытаньню падрыхтоўкі і організацыі антыпадатковых выступленьняў павінна быць надана максымум увагі з боку нашых організацый. Чым лепей падрыхтаваны і організаваны выступленьні, чым больш яны масавы, тым больш цяжка фашызму здушыць іх. Аб'яднаным сілам фашызму неабходна супроцьставіць адпор мас цэлых раёнаў супроць экзэкуцый, налётаў паліцыі і фашыстоўскіх карных экспэдыцый.

У гэтых варунках асабліва важнае і рашаючае значэньне набывае організацыя дружын масавай самаабароны ў вёсцы, якая, концэнтруючы вакол сябе масы, зможа даць адпор налётам паліцыі і экзэкутараў.

З антыпадатковымі выступленьнямі неабходна ўвязваць усе іншыя выступленьні сялянскіх мас на грунце іх штодзенных патрэб, як організацыя паўсямеснага адмаўленьня ад выконваньня шарваркаў, адмаўленьне ад уплаты штрафаў, даўгоў па крэдытах і пазыках урадавым і абшарніцка-кулацкім крэдытным установам і квотнікам, організацыя барацьбы супроць правядзеньня комасацыі і ліквідацыі сэрвітутаў і ўсямернае абвастрэньне яе форм.

Аб'яднаючы гэтую барацьбу з выступленьнямі супроць падаткаў, з барацьбой супроць нацыянальнага ўціску і фашыстоўскага тэрору, партыя павінна ахапіць сваім кіраўніцтвам усялякія формы праяў стыхійнай барацьбы мас і накіраваць яе ў рэчышча барацьбы за зямлю бяз выкупу, за самавызначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня ЗБ з БССР, за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры.

Тут неабходна з асаблівай вастратой падкрэсьліць рашаючае значэньне дзеля разгортваньня барацьбы сялянскіх мас падтрыманьня і кіраўніцтва гэтай барацьбы з боку пролетарыяту як Зах. Беларусі, так і ўсёй Польшчы. Асаблівае значэньне ў гэтых варунках мае арганізацыя шырокага забастовачнага руху сельска-гаспадарчага пролетарыяту, як асноўнага зьвяна ў справе ўзмацненьня гегемоніі пролетарыяту ў сялянскім руху. Злучэньне рэволюцыйных выступленьняў сялянскіх мас з забастовачным рухам рабочае клясы і выступленьнямі беспрацоўных зьяўляецца асноўным варункам пашырэньня рэволюцыйнай барацьбы, падняцьця яе на вышэйшы ўзровень, асноўным варункам замацаваньня саюзу рабочых і сялян і ўзмацненьня гегемоніі пролетарыяту ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху.

Ад пасьпяховасьці ажыцьцяўленьня задачы ўзмацненьня гегемоніі пролетарыяту ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху ў першую чаргу залежыць, наколькі ў варунках насьпяваючай рэволюцыйнай сытуацыі і набліжаючагася нападу фашыстоўскай Польшчы на СССР мы зможам мобілізаваць мільённыя масы сялянства і працоўных мас паняволеных народаў на штурм позіцый фашыстоўскай дыктатуры, на барацьбу супроць імпэрыялістычнай вайны, у абарону СССР.

---

**А. Танхілевіч**

# Тэмпы і якасьць росту КП(б)Б

Для таго, каб зьнішчыць капіталізм, пабудаваць соцыялізм, рабочая кляса ня можа абыйсьціся бяз „партыі баявой, партыі рэволюцыйнай, дастаткова сьмелай для таго, каб павесьці пролетарыят на барацьбу за ўладу, дастаткова вопытнай для таго, каб разабрацца ў складаных умовах рэволюцыйнай абстаноўкі і дастаткова гібкай для таго, каб абайсьці ўсе і ўсялякія падводныя камні на шляху да мэты" (Сталін).

Комуністычная партыя зьяўляецца вышэйшай формай клясавай організацыі пролетарыяту. Важнейшай умовай моцнасьці партыі зьяўляецца наяўнасьць самай цеснай, кроўнай сувязі партыі з рабочай клясай, партыя павінна быць „усімі карэньнямі свайго існаваньня зьвязана з рабочай клясай" (Сталін). Наша партыя ўпітвае ў сябе ўсё лепшае, што маецца сярод усіх працоўных. Але нічога не зразумеў у сутнасьці нашай партыі той, хто не ўсьвядоміў сабе, што пытаньне аб росьце і вярбоўцы ў партыю ёсьць перш за ўсё пытаньне аб узмацненьні пролетарскага ядра партыі. Узмацненьню пролетарскага складу, забясьпечаньню моцнага пролетарскага асяродку мы падначальваем усю нашу працу па росту і вярбоўцы.

Наша партыя зьяўляецца партыяй пролетарыяту, яна павінна быць зьвязана „ўсімі карэньнямі свайго існаваньня з рабочай клясай". Пытаньне аб рабочым асяродку ў партыі — гэта перш за ўсе пытаньне забясьпечаньня чоткай пролетарскай лініі ва ўсёй рабоце партыі. Пытаньне аб рабочым асяродку гэта пытаньне здольнасьці партыі павесьці наступ на гарадзкую і вясковую буржуазію і адбіць дауленьне дробнай буржуазіі на партыю і рабочую клясу. Пытаньне аб моцным пролетарскім асяродку — гэта пытаньне аб узмацненьні адзінства нашай партыі. Гэта пытаньне перавыхаваньня, пролетарскага выхаваньня выхадцаў з іншых соцыяльных груповак. Чым мацней пролетарскі асяродак — тым больш шансаў на хутчэйшую „пераробку" тых, хто прышоў у партыю з працоўных мас сялянства, з інтэлігенцыі. Ніколі нельга забываць, што ўступаючы ў партыю гэтыя элемэнты прыносяць з сабою яшчэ шмат адсталага, дробна-буржуазнага, чуждага нам; працягваючы жыць у старой абстаноўцы, яны значна больш, чым рабочы, працягваюць быць об'ектам узьдзейнічаньня клясава-варожых нам сіл.

У ўмовах нацыянальнай рэспублікі пытаньне аб соцыяльным складзе партыі набывае асаблівае значэньне, адпаведны соцыяльны склад партыі павінен дапамагчы забясьпечыць пролетарскую лінію ў нацыянальнай палітыцы і бязьлітасную барацьбу з нацыяналістычнымі скажэньнямі лініі партыі.

Наша партыя вырасла ў 2-х мільённую армію. Такі вялізарны рост зьяўляецца вынікам правільнай лініі партыі. Правільнасьць палітыкі партыі, баяздольнасьць партыі, яе органічная сувязь з рабочай клясай знаходзіць сваё пацьверджаньне ў колёсальным росьце партыі перш за ўсе за лік лепшых рабочых. Аб тым, што менавіта правільная палітычная і організацыйная лінія партыі зьяўляецца асноўнай рашаючай прычынай росту сьведчыць тое, што рост партыі ў пераломны момант, тады калі краіна стаіць перад вялізарнымі цяжкасьцямі,—зьяўляецца найбольш вялізарным. Успомнім 1919 год, мінулы 1930 г. Гэта былі гады найвялікшых цяжкасьцяй (трэба, бязумоўна, разьлічаць паміж цяжкасьцямі 1919 г. і 1930 г.) і менавіта гэтыя гады былі гадамі найбольш бурнага росту партыі. Цяжкасьці нас не палохаюць, не палохаюць яны і рабочую клясу. У нас няма ніякага сумненьня ў тым, што калі-б заўтра пачалася інтэрвэнцыя Савецкага Саюзу, дык рабочая кляса, колгасьнікі адкажуць на вайну супроць нас мільённым прытокам у партыю.

Рост партыі ў асноўным, як мы ўжо гаварылі, залежыць ад правільнасьці генэральнай лініі партыі, але разам з гэтым, у паасобных галінах прамысловасьці, у паасобных раёнах, на паасобных прадпрыемствах тэмпы росту маюць цэлы шэраг асаблівасьцяй. Ня маючы магчымасьці даць падрабязныя тлумачэньні недастатковай партыйнай праслойкі, маруднага тэмпу росту на кожным прадпрыемстве ці ў кожным раёне, мы зараз падкрэсьлім толькі тое, што павялічэньне партыйнай праслойкі, тэмп росту залежыць ад становішча партыйна-масавай работы на прадпрыемстве, саўгасе, колгасе і г. д. і ад пастаноўкі работы па вярбоўцы ў партыю.

У пытаньнях росту трэба рашуча змагацца супроць самацёку. *Мы за бальшавіцкае рэгуляваньне росту і за актыўную вярбоўку.* Трэба цьвёрда ўцяміць, што „розьніца паміж перадавым атрадам і астатняй масай рабочай клясы, паміж партыйнымі і беспартыйнымі ня можа зьнішчыцца, пакуль ня зьнішчацца клясы, пакуль пролетарыят будзе папаўняцца выхадцамі з іншых кляс, пакуль рабочая кляса ў цэлым будзе пазбаўлена магчымасьці падняцца да ўзроўню перадавога атраду“ (Сталін).

З гэтага выцякае, што мы павінны падыходзіць пэрсанальна да кожнага, хто жадае плячо ў плячо ў шэрагах аднэй партыі змагацца за комунізм. Тав. Саркіс у 1926 г. прапанаваў прыняць у бліжэйшыя гады большасьць рабочай клясы ў партыю. У некалькі іншай форме паасобныя таварышы высоўваюць гэты-ж самы лёзунг і зараз, калі мы гаворым аб тым, што „кожны ўдарнік павінен быць членам партыі“. Партыя гаворыць аб тым, што кожны рабочы павінен стаць ударнікам. Мы маем ужо зараз каля паловы рабочых у ўдарных брыгадах. Што здарылася-б з нашай партыяй, калі-б мы прымалі ў партыю ўсіх ударнікаў. Прыём у партыю ўсіх ударнікаў павёў-бы за сабой засьмечанасьць партыі такімі, якія яшчэ не сазрэлі да таго, каб быць членам партыі. Такая ўстаноўка павінна быць рашучым чынам адкінута.

Побач з гэтым трэба рашуча сказаць і аб нашых рэзэрвах росту. Маюцца паасобныя настроі аб тым, што ўсіх лепшых мы ўжо прынялі ў партыю. Не ўвайшлі ў партыю безнадзейныя і ненадзейныя элемэнты. З такімі настроямі трэба весьці яшчэ больш рашучую барацьбу. Такія настроі нічога супольнага ня маюць з сапраўднай абстаноўкай, з правільнай ацэнкай рэзэрваў для росту. У нас маюцца магутныя рэзэрвы росту. Аналіз росту па асобных організацыях і прад-

прыемствах дакажуць, што сьмешны і злачынны ўсякія настроі аб тым, што няма базы і няма рэзэрваў для падвоенага тэмпу росту. Вялізарнае разгортваньне прамысловасьці, саўгасаў, МТС і колгасаў — гэта вялізарны рост рэзэрваў для прытоку ў партыю. Гаворачы аб рэзэрвах, аб базе росту, нам неабходна ўлічыць, што асноўныя, *бліжэйшыя* рэзэрвы для росту — гэта старыя кадравыя рабочыя з большым вытворчым стажам.

Пры далейшым аналізе і крытыцы недахопаў мы будзем выходзіць з таго, што „накіроўваючая роля УсеКП(б), як асноўнага рычагу дыктатуры пролетарыяту, можа быць захавана, забясьпечана і ўзмоцнена пры сыстэматычным палепшаньні соцыяльнага складу партыі шляхам сталай вярбоўкі ў партыю рабочых, работніц ад вытворчасьці“ (з рэзолюцыі XV Зьезду партыі па справаздачы ЦК).

Як расьце КП(б)Б і за лік каго яна расьце.

| Тэрмін | Усяго комуністаў | Па соцыяльнаму становішчу | | | Па роду заняткаў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Рабоч. | Сялян. | Служач. | Рабоч. | Сялян | Служач. |
| 1/I—28 г. | 29470 | 16753<br>56,8% | 7001<br>23,8% | 5200<br>18% | 10900<br>37% | 3132<br>10,6% | 11488<br>39% |
| 1/I—29 „ | 33381 | 19864<br>59,5% | 7903<br>23,7% | 5320<br>15,9% | 13146<br>39,4% | 3650<br>10,9% | 11918<br>35,6% |
| 1/I—30 „ | 36308 | 23446<br>64,6% | 7667<br>21,1% | 4925<br>13,6% | 16255<br>44,8% | 3490<br>9,6% | 12052<br>33,5% |
| 1/I—31 „ | 46227 | 30683<br>66,4% | 10451<br>22,6% | 5093<br>11% | 18718<br>40,5% | 5864<br>12,7% | 15069<br>32,6% |

За гэтыя тры гады мы маем у беларускай організацыі павялічэньне шэрагаў партыі на 17.000 чал., або на 60%. Якасны склад росту таксама зьяўляецца ў асноўным здавальняючым. За ўсе тры гады мы маем сыстэматычнае *павялічэньне проценту рабочых у партыі*. Калі на 1-е студзеня 1928 году рабочых у складзе КП(б)Б было 56,8%, дык на 1-е студзеня 1931 г. мы маем 66,4% рабочых (па соцыяльнаму становішчу). Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што соцыяльны склад КП(б)Б паляпшаецца. Побач з гэтым, процант сялян у партыі з 23,8% на 1-е студзеня 1928 г. зьнізіўся да 22,6% на 1-е студзеня 1931 г. Рэзка панізілася ўдзельная вага служачых (з 18% да 11%). Мы зьвяртаем увагу чытачоў, што справа ідзе аб служачых па соцыяльнаму становішчу, г. зн. аб такіх членах і кандыдатах партыі, якія былі служачымі да ўступленьня ў партыю.

Іншы малюнак мы атрымоўваем, калі разглядаем якасныя зьмены складу партыйнай організацыі *па роду заняткаў*. Перш за ўсе падкрэсьлім, што КП(б)Б значна вырасла за лік рабочых з вытворчасьці. Калі на 1-е студзеня 1928 г. у складзе КП(б)Б было 10.900 рабочых з вытворчасьці, або 37%, дык на 1-е студзеня 1931 г. мы маем у шэрагах КП(б)Б 18.718 чал. рабочых з вытворчасьці або 40,5%. Сыстэматычны рост у абсолютных лічбах і ў процантах мы маем і ў рубрыцы сялян. Што датычыцца служачых, дык становішча некалькі іншае. Колькасьць служачых вырасла значна, з 11.488 на 1/I-28 г. да 15.069 на 1/I-31 г., але ўдзельная вага служачых зьнізілася з 39% на 1/I-28 г. да 32,6% на 1/I-31 г. КП(б)Б за апошнія тры гады вяла ба-

рацьбу за палепшаньне социяльнага складу партыі і дабілася дасягненьняў у гэтай барацьбе.

Да гэтага часу мы гаварылі аб зьменах у социяльным складзе КП(б)Б, а зараз застановімся на характарыстыцы *прыёму* ў партыю. Тыя лічбы, якія мы далі вышэй ня зусім дакладна адлюстроўваюць і ня могуць зусім дакладна адлюстраваць прыток у партыю. Справа ў тым, што вышэй даныя лічбы не гавораць, сколькі мы прынялі ў партыю і каго мы прынялі, бо за гэтыя гады шмат было высунута ў партыйны, савецкі, профэсійны і інш. апарат, шмат хто быў пасланы на вёску, у ВНУ, ВТНУ, тэхнікумы, шэраг таварышоў былі выключаны з партыі і г. д. Таму сапраўдную характарыстыку дзейнасьці партыі ў галіне барацьбы за яе пролетарскі асяродак і за яе рост мы можам атрымаць, калі прааналізуем склад тых, каго мы прынялі ў партыю:

Дынаміка прыёму ў партыю і склад прынятых:

| За які час прынята | Усяго прынята | Па роду заняткаў | | | | Па соц. паходжаньню | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Раб. | Сялян | Служ. | Інш. | Раб. | Сялян | Служ. | Інш. |
| За 1928 г. | 6056<br>100% | 3974<br>65,6% | 1671<br>27,6% | 347<br>5,7% | 64<br>11% | 3445<br>56,9% | 1207<br>19,9% | 531<br>8,8% | 873<br>14,4% |
| „ 1929 „ | 6459<br>100% | 5390<br>83,4% | 948<br>14,7% | 85<br>1,3% | 36<br>0,6% | 4786<br>74,1% | 763<br>11,8% | 255<br>3,9% | 655<br>10,2% |
| „ 1930 „ | 13123<br>100% | 9327<br>71% | 3496<br>26,7% | 300<br>2,5% | —<br>— | 8031<br>61,2% | 2947<br>22,4% | 498<br>3,8% | 1647<br>12,6% |

Аб чым сьведчаць гэтыя лічбы. *Перш за ўсё аб тым, што ў 1930 г. мы маем падваеньне тэмпу росту ў параўнаньні з мінулымі 2-ма гадамі.* Палітычнае значэньне гэтага росту яшчэ больш павялічыцца, калі мы тут-жа падкрэсьлім, што ў 1930 г. найвялікшы рост даў першы квартал 1930 г. А першы квартал 1930 г. быў кварталам найбольш форсаванага наступу на кулацтва. Гэта быў квартал моцнага ўздыму колгаснай хвалі. За ўвесь 1930 г. гэта быў квартал найбольш вострай класавай барацьбы. Ці не знамянацельна, што менавіта ў гэтым квартале мы мелі найбольш хуткі *тэмп росту,* чым за апошнія некалькі год. Гэта адна лічба абнажае ўсю моц нашае партыі і наколькі яна зьвязана з рабочымі і працоўнымі масамі.

Якасны склад прынятых малюецца наступным чынам: у 1930 г. мы прынялі 8031 рабочых з вытворчасьці, у той час, калі ў 1929 г. прынялі 4070 рабочых, а 1928 г. — 3445 рабочых, г. зн. мы мелі ў 1930 г. падваеньне прыёму за лік рабочых з вытворчасьці. У той-жа самы час тэмп росту за лік сялян, служачых і іншых быў значна большым. У 1930 г. мы прынялі 2947 сялян, — амаль што ў чатыры разы больш, чым у 1929 г. Іншых мы ў 1930 г. мелі 1647 у параўнаньні з 655 у 1929 г., што дае павялічэньне амаль што на 250%. У 1930 г. служачых мы таксама прынялі значна больш, чым у 1929 г.

Лічбы 1930 г. сьведчаць ня толькі аб сіле і дадатных момантах прытоку ў партыю, яны таксама сьведчаць і аб адмоўных момантах у справе рэгуляваньня прытоку. Пры наяўнасьці наогул здавальняючага прыёму ў партыю нашыя партыйныя організацыі ня здолелі выканаць адну з важнейшых дырэктыў партыі ў галіне палепшаньня соц. складу партыйнай організацыі.

## Што прапанаваў лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) у 1928 г. і як мы гэта выканалі

Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б) у 1928 г. прыняў пастанову аб тым, каб дабіцца не пазьней канца 1930 г. ня менш паловы складу партыі з рабочых з вытворчасьці. XII Зьезд КП(б)Б у лютым 1929 г. таксама прыняў пастанову аб гэтым. Бюро ЦК у красавіку 1930г. абавязала партыйныя організацыі дабіцца выкананьня гэтай пастановы да XIII Зьезду КП(б)Б. На першае студзеня 1930 г. КП(б)Б ня выканала гэтых пастаноў і гэта зьяўляецца вялікім недахопам у рабоце нашых партыйных організацый у галіне прыёму ў партыю. КП(б)Б мае вялізарныя дасягненьні ў галіне вярбоўкі ў партыю, але яна не змагла выканаць дырэктывы аб давядзеньні да канца 1930 г. ня менш паловы складу партыі з рабочых з вытворчасьці.

Як шоў рост КП(б)Б у 1930 г. пакваратальна.

| | Усяго прынята | Па соц. становішчу | | | | Па роду заняткаў | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Рабочыя | Сяляне | Служ. | Інш. | Рабочыя | Сяляне | Служ. | Інш. |
| 1 кв. | 3932<br>100% | 3495<br>88,9% | 413<br>10,5% | 21<br>0,5% | 3<br>0,1% | 3200<br>81,4% | 380<br>9,7% | 76<br>1,9% | 276<br>7% |
| 2 кв. | 3076<br>100% | 2443<br>79,4% | 593<br>19,3% | 30<br>1% | 10<br>0,3% | 2107<br>68,5% | 491<br>16% | 103<br>3,3% | 375<br>12,2% |
| 3 кв. | 2782<br>100% | 1493<br>53,7% | 1155<br>41,2% | 94<br>3,5% | 40<br>1,6% | 1154<br>41,5% | 997<br>35,8% | 165<br>5,9% | 466<br>16,8% |
| 4 кв. | 3333<br>100% | 1896<br>56,9% | 1335<br>40% | 102<br>3,1% | | 1570<br>47,1% | 1079<br>32,4% | 154<br>4,5% | 530<br>16% |

Гэтая табліца вельмі характарна. Перш за ўсе кідаецца ў вочы значнае памяншэньне тэмпу вярбоўкі ў 2-м і 3-м кварталах у параўнаньні з першым кварталам. У чацьвертым квартале тэмп прыёму пачынае набліжацца да лічб першага кварталу. Па тых вестках, якія мы маем аб прыёме ў першым квартале 1931 г., ён будзе яшчэ большым, чым у першым квартале 1930 г. Пасіленьне вярбоўкі ў чацьвертым квартале 1930 г. і ў першым квартале 1931 г. зьяўляецца часткова вынікам рашучых дырэктыў бюро ЦК па гэтых пытаньнях. Большы рост у чацьвертым квартале 1930 г. і ў першым квартале 1931 г. таксама адлюстроўвае новы ўздым актыўнасьці рабочых мас у сувязі з выкананьнем заданьняў ударнага кварталу. Падвышэньне прытоку ў партыю ў чацьвертым квартале знаходзіцца таксама ў прамой сувязі з прапрацоўкай у масах Верасьнеўскай адозвы ЦК УсеКП(б) і гэты рост яшчэ раз пацьвярджае ўплыў Верасьнеўскай адозвы ЦК на ўзмацненьне тэмпаў социялістычнага будаўніцтва, на ўзмацненьне творчага ўздыму рабочае клясы.

Пакваратальны процант прынятых рабочых па социяльнаму становішчу сьведчыць аб сыстэматычным зьніжэньні ўдзельнай вагі рабочых. Калі ў першым квартале 1930 г. сярод прынятых у партыю было 88,9% рабочых па социяльнаму становішчу, дык у другім квартале іх было толькі 79,4%, а ў чацьвертым квартале—56,9%. Вельмі характарным зьяўляецца таксама значны рост прыёму сялян у партыю. Калі ў першым квартале 1930 г. мы прынялі ў партыю ўсяго 413 сялян

і яны складалі 10,4% агульнага прыёму, дык у другім квартале мы прынялі 593 сялян, або 19,3%; у 3-м квартале мы прынялі 1155 сялян або 41,2%, а ў чацьвертым квартале мы ўжо прынялі 1335 сялян, або 40% агульнага прыёму. Мы лічым неабходным зьвярнуць увагу на тое, што першы і другі кварталы 1930 г. далі амаль што менш чым у два разы сялян у партыю, чым 3-ці і 4-ты кварталы. Падвоены тэмп прытоку ў партыю сялян (у большасьці колгасьнікаў) у 3-м і 4-м кварталах зьяўляецца вынікам замацаваньня і росту колгасаў і перакананьня на справе тысяч колгасьнікаў і аднаасобнікаў у перавазе колгасаў над дробнай гаспадаркай. Што датычыцца служачых, дык мы таксама маем сыстэматычны рост удзельнай вагі служачых у агульным прыёме ў партыю, акрамя 4-га кварталу, які даў нязначнае памяншэньне. Гэтыя лічбы сьведчаць, што ў 1930 г. ня гледзячы на тое, што мы мелі вялізарнейшы рост партыі за лік рабочых з вытворчасьці, мы мелі сыстэматычнае пагоршаньне соцыяльнага складу прынятых у партыю па соцыяльнаму становішчу.

Такая-ж самая карціна атрымоўваецца тады, калі мы прааналізуем склад прынятых *па роду заняткаў*. Мы тут таксама маем памяншэньне проценту рабочых з вытворчасьці сярод прынятых у партыю з 81,4% у першым квартале да 47,1% у 4-м квартале, прычым у 3-м квартале мы прынялі ўсяго 41,5% рабочых з вытворчасьці ў агульным прыёме.

Процант сялян сярод прынятых у партыю па роду заняткаў таксама ўзрос амаль што ў чатыры разы. У чатыры разы ўзрос і процант служачых і больш чым у два разы ўзрос процант іншых. Пасьля гэтых лічбаў цяжка настайваць на тым, што ўсе нашы партыйныя організацыі змаглі забясьпечыць бальшавіцкае рэгуляваньне прыёму ў партыю. Аб недахопах па рэгуляваньні прытоку ў партыю сьведчаць наступныя лічбы.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| На 1-е студзеня 1928 г. | КП(б)Б было | 37,0% | рабочых | з вытворч. |
| " " " 1929 г. | " | 39,4% | " | " |
| " " " 1930 г. | " | 44,8 | " | " |
| " " ліпеня " | " | 46,1% | " | " |
| " " студзеня 1931 г. | " | 40,5% | " | " |

Як магло здарыцца, што мы пайшлі назад, што другое паўгодзьдзе 1930 г. нас адкінула да проценту рабочых з вытворчасьці на 1-е студзеня 1929 г. і ліквідавала дасягненьні ў галіне палепшаньня складу КП(б)Б за лік рабочых з вытворчасьці за другое паўгодзьдзе 1929 г. і першае паўгодзьдзе 1930 г. Адказ на гэтыя пытаньні павінен нам даць аналіз прыёму па паасобных організацыях. Пасьля ліквідаваньня акруг мы маем магчымасьць даць малюнак і ацэнку работы па прыёму ў партыю кожнай раённай партыйнай організацыі.

## Як раёны прымалі ў партыю

Толькі цяпер мы па-саўпраўднаму пачынаем падыходзіць да нашых раённых партыйных організацый. Чым далей, тым больш мы пераконваемся ў тым, што ліквідацыя акруг была праведзена своячасова і была неабходна, як паветра. Матэрыялы аб становішчы росту вясковых раённых парторганізацый даюць нездавальняючую ацэнку іх работы. Спачатку кароткая характарыстыка складу раённых організацый.

Лік організацый па колькасьці комуністаў на 1/I-31 г.

| | Да 100 комун. | Ад 101 да 150 | Ад 151 да 200 | Ад 201 да 300 | Ад 301 да 400 | Ад 401 да 500 | Ад 501 да 1000 | Ад 1001 і больш. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік організацый | 5 | 28 | 30 | 21 | 4 | 2 | 5 | 8 |

Такім чынам, 33 організацыі налічваюць менш 150 комуністаў, 30 організацый налічваюць каля 200 ком., а 21 організацыя каля 300 комуністых. На ўсю Беларусь раённых і гарадзкіх організацый з лікам комуністых больш 300 маецца ўсяго 19.

Зьвернем увагу на соцыяльны склад нашых раённых партыйных організацый.

Лік організацый, у якіх процант рабочых ад вытворчасьці наступны:

| Да 5% | Ад 5 да 10% | Ад 10% да 20% | Ад 20 да 30% | Ад 30 да 40% | Ад 40 да 50% | Ад 50 і больш |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 21 | 28 | 18 | 14 | 10 | 9 |

З гэтых некалькіх лічбаў мы бачым, што ў нас маюцца раёны дзе ў складзе парторганізацыі менш 5% рабочых з вытворчасьці. Гэта значыць, што маюцца раёны, дзе ўсяго 1 ці 2 рабочых. Палова організацый маюць менш, чым 20% рабочых з вытворчасьці ў складзе організацыі. Больш 50% рабочых з вытворчасьці маецца толькі ў 9 організацый—гэта прамысловыя цэнтры БССР былых акруговых гарадоў.

Лік організацый, у якіх процант служачых па роду заняткаў наступны:

| Да 20% | Ад 20 да 30% | Ад 30 да 40% | Ад 40 да 50% | Ад 50 да 60% | Ад 60 і больш |
|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 9 | 33 | 30 | 16 | 8 |

Калі лічбы аб удзельнай вазе рабочых з вытворчасьці ў раённых парторганізацыях сыгналізавалі аб наяўнасьці вялікай колькасьці організацый з нездавальняючай праслойкай рабочых з вытворчасьці, дык лічбы аб удзельнай вазе служачых яшчэ больш пацьвярджаюць нездавальняючы склад значнай колькасьці раённых парторганізацый. 24 раённых організацый маюць больш чым 50% служачых па роду заняткаў; дзьве трэці організацый маюць у сваім складзе ад 30 да 50% служачых па роду заняткаў. Гэта сьведчыць аб надзвычайнай слабасьці нашых вясковых парторганізацый. Непасрэдная, кроўная сувязь паміж вясковымі партыйнымі організацыямі з масамі пагаршаецца такім соцыяльным складам організацыі.

Як расьце наша вясковая парторганізацыя. Перш за ўсё, як расьце яна за лік рабочых і, у прыватнасьці, за лік рабочых саўгасаў і батракоў.

Лік організацый, якія прынялі ў партыю за IV квартал 1930 г.

1) рабочых ад варштату:

| Ніводнага | Ад 1 да 3 | Ад 3 да 5 | Ад 5 да 10 | Ад 10 да 15 | Ад 15 да 25 | Ад 25 і больш |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 17 | 25 | 19 | 14 | 5 | 9 | 10 |

2) с.-г. рабочых і батракоў:

| Ніводнага | Ад 1 да 3 | Ад 3 да 5 | Ад 5 да 10 | Ад 10 і больш |
|---|---|---|---|---|
| 44 | 28 | 17 | 9 | 1 |

Вось лічбы, якія ўнушаюць трывогу. 17 організацый ня прынялі ніводнага прамысловага рабочага, а 44 організацыі, г. зн. амаль што палова організацый ня прынялі ніводнага рабочага саўгасу, ніводнага батрака. Праўда, шэраг організацый прынялі былых батракоў, зараз колгасьнікаў, але і такіх прынята ўсяго па ўсёй Беларусі за ўвесь квартал 64 чалавекі. 25 організацый прыняла па аднаму-трох рабочых, а 28 прыняла па аднаму-трох рабочых саўгасаў і батракоў. Калі ўлічыць, што з гэтых організацый большасьць прыняла толькі па аднаму рабочаму і батраку, дык будзе яскрава, што большасьць вясковых партыйных організацый фактычна ігнорують задачу росту за лік прамысловых рабочых, рабочых саўгасаў і батракоў. У ўмовах Беларусі дзе маецца шмат саўгасаў, дзе ў раёнах мы маем значную колькасьць' прадпрыемстваў (амаль што ўся дрэваапрацоўчая, шкляная, папяровая прамысловасьць, прамысловасьць будаўнічых матэрыялаў, керамічных вырабаў), такі прыём сьведчыць аб тым, што шмат вясковых партыйных організацый ня ўцямілі сабе вялізарнага значэньня ўзмацненьня пролетарскага асяродку партыі. Шмат якія ня ўцямілі сабе, што *ўзмацненьне пролетарскага асяродку зьяўляецца пытаньнем узмацненьня кіруючай ролі нашай партыі,* асабліва на весцы.

Калі мы паглядзім, як вярбуюць у партыю комсамольцаў, жанчын, дык становішча таксама нездавальняючае.

Лік організацый па прыёму жанчын у партыю за 4-ты квартал 1930 г.

| Ніводнай | Ад 1 да 3 | Ад 3 да 5 | Ад 5 да 10 | Ад 10 да 20 | Ад 20 і больш |
|---|---|---|---|---|---|
| 24 | 39 | 16 | 13 | 3 | 4 |

Дваццаць чатыры організацыі ня прынялі ніводнай работніцы, ніводнай батрачкі, ніводнай колгасьніцы. 35 прынялі ўсяго па 1—3 жанчын, з іх 35 прынялі толькі па 1-2 жанчын. Ці партыя мала гаварыла аб неабходнасьці ўцягненьня жанчын у партыю. Гэтыя матэрыялы сьведчаць аб тым, што шмат якія вясковыя парторганізацыі да гэтага часу не зразумелі значэньня вярбоўкі ў партыю перадавых работніц, батрачак, колгасьніц.

Ня лепш абстаіць справа і з прыёмам у партыю комсамольцаў.

Лік організацый па прыёму комсамольцаў у партыю за 4-ты квартал 1930 г.

| Ніводнага | Ад 1 да 3 | Ад 3 да 5 | Ад 5 да 10 | Ад 10 да 20 | Ад 20 і больш |
|---|---|---|---|---|---|
| 19 | 42 | 10 | 20 | 2 | 6 |

19 раёнаў ня прынялі ніводнага комсамольца, а 42 прынялі 1—3 комсамольцаў, з іх палова прыняла толькі па аднаму комсамольцу. Непасрэдна павінны ў такім агідным прыёме ў партыю комсамольцаў як партыйныя, так і комсамольскія організацыі.

У заключэньне пакажам, як расьце наогул наша партыйная вясковая організацыя.

Лік організацый па агульнаму прыёму ў КП(б)Б за 4-ты квартал 1930 г.

| Да пяці | Ад 5 да 10 | Ад 10 да 20 | Ад 20 да 35 | Ад 35 да 50 | Ад 50 да 75 | Ад 75 да 100 | Ад 100 і больш |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 18 | 29 | 26 | 8 | 2 | 2 | 4 |

Такім чынам, трэба прызнаць, што і агульны рост ня зусім здавальняючы. Калі да 20-ці комуністаў прынялі 56 організацый, дык гэта сьведчыць аб тым, што з такім тэмпам росту мы ня ўзмоцнім як належыць быць раённыя партыйныя організацыі. Галоўным вывадам з аналізу росту раённых організацый зьяўляецца тое, што раёны яшчэ не аўладалі работай па вярбоўцы і бальшавіцкаму рэгуляваньню росту партыі. Раёны скарысталі сваё права для таго, каб узмацніць пролетарскі асяродак у сваёй організацыі. Лічбы вярбоўкі і рэгуляваньня соцыяльнага складу партыі сьведчаць аб наяўнасьці праяў правага опортунізму на практыцы ў гэтай рабоце ў шэрагу раёнаў.

**Якасная характарыстыка прынятых у партыю за 4-ты квартал 1930 г.**

Да гэтага часу мы гаварылі больш за ўсё наогул аб рабочых, сялянах, служачых і інш. Вельмі каштоўна паглядзець бліжэй гэтыя групы новых членаў партыі і ў сувязі з гэтым даць ацэнку якасьці нашай работы па прыёму. Перш за ўсе разгледзім якасны склад прынятых у партыю за IV квартал 1930 году ў соцыяльным разрэзе.

Усяго прынята ў партыю за 4-ты квартал 1930 г. фабрычна-заводзкіх і транспортных рабочых 1290 чал., з іх 71% зьяўляецца ўдарнікамі. Гэта значыць, што ўдарнік стаў галоўнай фігурай пры прыёме рабочых у партыю. Вельмі характарны вытворчы стаж рабочых. З 1290 чал. маюць вытворчы стаж:

| | |
|---|---|
| ад 3 да 5 год | 20,4% |
| ад 5 да 10 „ | 28,4% |
| ад 10 да 15 „ | 16,8% |
| Звыш 15 „ | 29,9% |
| Былі рабочымі да рэволюцыі | 30,1% |

Вытворчы стаж прынятых у партыю рабочых сьведчыць аб тым, што ў партыю прымаюць рабочых, якія маюць значны вытворчы стаж. 30% рабочых былі і да рэволюцыі рабочымі. Гэта сьведчыць аб тым, што партыйныя організацыі зьвярнулі належную ўвагу на вярбоўку ў партыю рабочых з вялікім вытворчым стажам.

Процэс ператварэньня колгасьніка ў асноўную і прочную апору знайшоў свой адбітак і на соцыяльным складзе прымаемых у партыю сялян. Наступныя лічбы даюць характарыстыку гэтаму.

Усяго прынята сялян:

у 1929 г.— 763, з іх колгасьнікаў— 367 або 48,1%
у 1930 г.—2947 „ „ —2774 „ 94,1%

Такім чынам, мы маем рэзкае памяншэньне проценту сялян-адзінаасобнікаў, прымаемых у партыю. Процэс памяншэньня проценту адзінаасобнікаў, сярод прымаемых у партыю пойдзе далей, і к канцу 1931 г. мы, напэўна, будзем мець такое становішча, калі адзінаасобнікаў сярод прымаемых у партыю зусім ня будзе.

Што-ж сабой прадстаўляюць адзінаасобнікі, якія прымаюцца ў партыю. Мы маем характарыстыку гэтых адзінаасобнікаў толькі за 4-ты квартал. Усяго ў 4-м квартале прынята 70 чал. адзінаасобнікаў. З іх зусім аслабанены ад с.-г. падатку—50 чал., а 20 чал. астатніх плоцяць падатак менш 10 рублёў. Такім чынам, усе 70 чалавек па тых вестках, якія мы маем—гэта беднякі. Горш абстаіць справа з іх грамадзкай актыўнасьцю. З 70 чал. толькі 24 чал. або 34,3% выконваюць грамадзкую няплатную работу, а 15 чал. або 21,4% выконваюць платную выбарную работу.

Што-ж прадстаўляюць колгасьнікі, якія прыняты ў 4-м квартале. Усяго іх прынята 956 чал., з іх 397 прайшлі школы і гурткі політграматы, 96 чал. выконваюць выбарную работу ў колгасах. Былі рабочымі да ўступленьня ў колгас—64 чал. Перш за ўсё адзначым, што ў партыю ідзе колгасьнік-актывіст, колгасьнік-ударнік. Наяўнасьць таго, што каля паловы прынятых у партыю колгасьнікаў прайшлі школы і гурткі політграматы, сьведчыць аб вялізарнай ролі партасьветы ў справе вярбоўкі і падрыхтоўкі ў партыю. Наступнае, што трэба падкрэсьліць, гэта тое, што процант рабочых і батракоў вельмі нізкі: усяго 64 чал. на 956 колгасьнікаў. Гэта сьведчыць аб тым, што ўсё яшчэ ігноруюцца задачы па ўцягненьні батрацтва ў партыю.

*Якасны склад служачых.* Усяго ў 4-м квартале прынята 115 чал. служачых. Па соцыяльнаму паходжаньню—39% рабочыя, 31% сяляне. Па грамадзкай актыўнасьці мы маем наступны малюнак: грамадзкую нагрузку маюць 86,1%. Ня зусім здавальняючым патрэбна прызнаць склад служачых па профэсіях. Так, з 115 чал. служачых усяго прынята 6 інжынэраў і тэхнікаў, 2 спэцыялісты сельскай гаспадаркі, 3 спэцыялісты лясной гаспадаркі, 6 вясковых і 4 гарадзкіх настаўнікаў. Ня прынята ніводнага доктара як у горадзе, так і ў вёсцы. Гэта сыгнал аб тым, як пастаўлена работа з гэтай праслойкай інтэлігенцыі і адпаведным чынам гэта дае характарыстыку работы парт. і проф. організацыі Саюзу Мэдыкасантруд.

Вось агульная якасная характарыстыка прынятых. Мы яшчэ раз падкрэсьліваем здавальняючы склад прынятых рабочых, недаацэнку батрацтва, як рэзэрву папаўненьня радоў партыі, ня зусім ясна фізыяномія адзінаасобнікаў, таксама недастаткова праслойка спэцыялістаў агульным складзе прынятых служачых.

## Як прымаем у партыю сель-гасп. рабочых і батракоў

Усяго было сель-гасп. рабочых і батракоў у КП(б)Б:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 студзеня 1928 г. | — 375 чал., альбо | 1,2% | к агульнай колькасьці раб. з вытворчасьці. |
| На 1 „ 1929 г. | — 843 „ „ | 2,6% | „ „ „ „ |
| На 1 „ 1930 г. | — 1283 „ „ | 3,5% | „ „ „ „ |
| На 1 ліпеня 1930 г. | — 1536 „ „ | 3,9% | „ „ „ „ |
| На 1 студзеня 1931 г. | — 1612 „ „ | 3,5% | „ „ „ „ |

Гэтыя лічбы сьведчаць аб сыстэматычным узросце с.-г. рабочых і батракоў у складзе КП(б)Б за выключэньнем 1930 г. Зараз паглядзім, як ідзе прыём у партыю сельска-гаспадарчых рабочых і батракоў

Усяго прынята ў КП(б)Б:

| | | | |
|---|---|---|---|
| За 1927 г. | — 132, альбо | 2,3% | к агульнай кольк. прынятых у партыю раб. з вытворчасьці. |
| За 1928 г. | — 314 „ | 5,2% | „ „ „ „ „ „ |
| За 1929 г. | — 836 „ | 12,9% | „ „ „ „ „ „ |
| За 1930 г. | — 808 „ | 6,1% | „ „ „ „ „ „ |

За 1930 год мы маем зьніжэньне росту КП(б)Б за кошт сельска-гаспадарчых рабочых і батракоў, ня гледзячы на тое, што ў 1930 годзе мы мелі рост колькасьці саўгасаў і значны рост занятых у іх сталых рабочых.

## Як прымаем жанчын у партыю

Пытаньне аб прыёме жанчын у партыю — гэта не фармальнае пытаньне. Гэта перш за ўсе пытаньне аб тым, як партыйныя організацыі зразумелі значэньне і ролю жанчыны ў сацыялістычным будаўніцтве. Лічбы сьведчаць аб тым, што ўсё яшчэ працягваецца фактычнае ігнараваньне вялізарнейшай ролі жанчыны ў сацыялістычны будаўніцтве. Трэба прама сказаць — недаацэнка ролі жанчыны дае моцную зброю ў рукі клясавага ворага.

Пяройдзем да лічбаў.

Колькі ў нас маецца жанчын у КП(б)Б?

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| На 1/I-28 г. | было ўсяго жанчын | 3442 | або 11,7% | у агульн. складзе КП(б)Б. |
| „ „ 29 г. | „ „ „ | 3928 | „ 11,8% | „ „ „ |
| „ „ 30 г. | „ „ „ | 4548 | „ 12,5% | „ „ „ |
| „ „ 31 г. | „ „ „ | 5882 | „ 12,7% | „ „ „ |

З гэтых лічбаў відаць, што маецца сыстэматычны рост удзельнай вагі жанчын у складзе КП(б)Б, але гэты рост настолькі нязначны, што маем права сказаць аб тым, што партыйная організацыя Беларусі да гэтага часу не змагла ажыцьцявіць сапраўднага пераломy ў галіне вярбоўкі ў партыю работніц і колгасьніц. Тэмп росту зьяўляецца тым больш недапушчальным, што за гэтыя гады мы маем ня толькі колькасны рост работніц на прадпрыемствах, але маем рост удзельнай вагі работніц у агульным складзе рабочай клясы. Ці не ганьба, калі ў агульным складзе рабочае клясы маем 35% жанчын, а ў партыі мы іх маем усяго 12,7%. Матэрыялы аб росьце партыі за лік жанчын сьведчаць аб тым, што ў 1930 г. мы мелі падзеньне проценту жанчын сярод агульнай колькасьці прыёму ў партыю. Вось лічбы.

Усяго прынята жанчын:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| У 1927 г. | усяго прынята | 709 | жанч. або 12,5% | з агульн. кольк. прынятых. |
| „ 1928 г. | „ „ | 773 | „ „ 12,8% | „ „ „ |
| „ 1929 г. | „ „ | 1047 | „ „ 16,2% | „ „ „ |
| „ 1930 г. | „ „ | 1759 | „ „ 13,4% | „ „ |

Для характарыстыкі нездавальняючай работы большай колькасьці дэлегацкіх сходаў прывядзем наступныя лічбы:

З агульнай колькасьці работніц, прынятых у партыю, былі або састаялі дэлегаткамі только 6% работніц. З агульнай колькасьці колгасьніц былі або зьяўляліся дэлегаткамі ў момант прыёму ў партыю толькі 13,7% прынятых. З прынятых у партыю работніц саўгасаў і батрачак — толькі 18,3% былі дэлегаткамі. Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што мы не змаглі як належыць скарыстаць дэлегацкія сходы для вярбоўкі ў партыю.

## Рост за лік комсамолу

Комсамол павінен быць адным з самых моцных рэзэрвуараў прытоку ў партыю. На практыцы мы маем наступнае:

### Удзельная вага комсамольцаў у КП(б)Б

На 1/I-29 г. было комсамольцаў у КП(б)Б 7830 чал. або 23,4%
„ 1/I-30 г. „ „ „ 7270 „ „ 20%
„ 1/I-31 г. „ „ „ 7377 „ „ 16%

Такім чынам, маецца сыстэматычнае падзеньне ўдзельнай вагі комсамольцаў у складзе КП(б)Б.

Як-жа мы раслі за лік комсамолу. Вось дынаміка росту за лік комсамольцаў.

У 1927 г. было прынята комсамольцаў у КП(б)Б 2449 або 43,3% к агульнаму прыёму.
„ 1928 г. „ „ „ „ 2666 „ 44% „ „
„ 1929 г. „ „ „ „ 2269 „ 35,1% „ „
„ 1930 г. „ „ „ „ 3309 „ 25,2% „ „

Памяншэньне ўдзельнай вагі комсамольцаў у шэрагах КП(б)Б знаходзіцца ў простай сувязі з памяншэньнем прыёму членаў комсамолу ў партыю за апошнія тры гады. Нават у 1930 г., калі мы мелі асабліва бурны ўзрост актыўнасьці ня толькі старых рабочых, але і рабочай моладзі, мы ня выправілі недахопаў, а наадварот, атрымалі рэзкае зьніжэньне ўдзельнай вагі комсамольцаў у агульным прыёме ў КП(б)Б. Няма ніякіх палітычных падстаў для зьмяншэньня ўдзельнай вагі комсамольцаў у агульным прыёме ў КП(б)Б. Асноўнай прычынай зьяўляецца недастатковае кіраўніцтва партыйных організацый работай ЛКСМБ, а таксама слабая работа комсамольскіх організацый у гэтай галіне. Комсамол Беларусі нясе большую частку віны і адказнасьці за дрэннае становішча росту КП(б)Б за лік комсасольцаў. Мы лічым неабходным падкрэсьліць, што слабы рост КП(б)Б за лік комсамольцаў сыгналізуе аб буйнейшых недахопах у рабоце беларускай організацыі комсамолу, асабліва ў выхаваўчай рабоце.

## Нацыянальны склад КП(б)Б

Нацыянальны склад партыйнай організацыі грае выключна важную ролю для ўзмацненьня партыйнага кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам нац. рэспублікі, узмацненьня кіруючай ролі рабочае клясы ў правільнам вырашэньні нацыянальнага пытаньня.

### Нацыянальны склад КП(б)Б:

| | Беларусаў | Яўрэяў | Расійц. | Поляк. | Іншых |
|---|---|---|---|---|---|
| На 1/I-29 г. | 18283<br>54,8% | 7744<br>23,2% | 4152<br>13,9% | 992<br>3% | 1740<br>5,1% |
| На 1/I-30 г. | 20184<br>55,5% | 8762<br>24,1% | 4283<br>11,8% | 759<br>2,1% | 2356<br>6,5% |
| На 1/I-31 г. | 25840<br>55,9% | 11007<br>23,8% | 5688<br>12,3% | 1228<br>2,7% | 2464<br>5,3% |

Такім чынам, мы маем сыстэматычны рост КП(б)Б за лік беларусаў за ўсе тры гады. Астатнія нацыянальнасьці даюць зьмены ў той ці іншы бок. Зараз паглядзім за лік якіх нацыянальнасьцяй ідзе рост КП(б)Б.

Прынята ў партыю:

| | Беларус. | Яўрэяў | Расійц. | Паляк. | Іншых |
|---|---|---|---|---|---|
| За 1927 г. | 3019<br>53,4% | 1450<br>25,7% | 751<br>13,3% | 169<br>2,9% | 268<br>4,7% |
| „ 1928 г. | 3455<br>57,1% | 1291<br>21,3% | 873<br>14,4% | 116<br>1,9% | 321<br>5,3% |
| „ 1929 г. | 3737<br>57,8% | 1470<br>22,7% | 772<br>12% | 165<br>2,6% | 315<br>4,9% |
| „ 1930 г. | 7639<br>58,2% | 3016<br>23% | 1308<br>9,9% | 365<br>2,8% | 795<br>6% |

Гэтыя лічбы яскрава сьведчаць аб тым, што мы маем сыстэматычны рост за лік беларусаў. Сыстэматычны рост за апошнія тры гады мы таксама маем за лік яўрэяў, палякаў і іншых. Гэта сьведчыць аб правільнасьці нацыянальнай палітыкі нашай партыі. Побач з гэтым, мы хочам падкрэсьліць наступныя 2 важнейшыя моманты: тэмп росту за лік беларусаў, бязумоўна, недастатковы. Удзельная вага рабочых беларусаў пры прыёме і ў складзе КП(б)Б ніжэй удзельнай вагі беларусаў у агульным складзе рабочых наогул. Наступнае, што трэба асабліва падкрэсьліць, гэта тое, што рабочая частка КП(б)Б чым дальш, тым больш расьце за лік рабочых беларусаў.

## Партыйная праслойка сярод рабочых Беларусі

У нас маюцца весткі аб партыйнай праслойцы сярод рабочых Беларусі за люты 1930 г. За гэты год значных зьмен не адбылося, калі ўлічыць, што за гэты год мы мелі ня толькі вялізарны рост КП(б)Б, але і вялізарнейшы рост усёй рабочай клясы Беларусі. Усяго было ўлічана каля 250 прадпрыемстваў, у т. л. усе буйныя і сярэднія прадпрыемствы. Вытворчых рабочых у той час было на гэтых прадпрыемствах 44.500 чал. Вось як разьмяркоўваліся комуністы сярод паасобных галін прамысловасьці:

% комуністаў у паасобных галінах прамысловасьці.

| Электрастанцыі | Мэталёвыя | Керамічныя | Шкляная | Запалкавая | Апрацоўка дрэва | Папяровая | Скурана-мехавая | Тэкстыльная | Швэйная | Харчова-злакавая | Абутковая | Трыкатажн. | Паліграфічн. | Навукова-мастацкая | Тарфяная |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 21,8% | 20,2 | 8,6 | 11,7 | 9,5 | 14% | 14,5 | 21,9 | 9,4 | 11,7 | 16% | 20,9 | 7,3 | 19,3 | 14,1 | 3,6 |
| 2 | 4 | 14 | 10 | 12 | 9 | 7 | 1 | 13 | 11 | 6 | 3 | 14 | 5 | 8 | 16 |

Як бачым найбольшая партыйная праслойка на электрастанцыях (21,8%), у мэталёвай прамысловасьці (20,2%), скураной і мехавой прамысловасьці (21,9%), на абутковых ф-ках (20,9%), у паліграфічнай прамысловасьці (19,3%). Такія важнейшыя для Беларусі галіны прамысловасьці, як шкляная, запалкавая, тэкстыльная, керамічная мае зусім нязначную партыйную праслойку. А тарфяная прамысловасьць мае ўсяго 3,5% комуністаў з агульнай колькасьці рабочых.

Побач з гэтым, наглядаецца няроўнамернасьць партыйнай праслойкі ня толькі паміж паасобнымі галінамі прамысловасьці, але ў межах адной і той-жа галіны прамысловасьці. З 4-х мэталязаводаў маем такое становішча, што на заводзе імя Ланцуцкага (Гомель) партыйная праслойка раўняецца 32,8%, на „Чырвоным Мэталісьце“ (Віцебск) — 25,4%, на заводзе „Комунар“ (Менск)—ужо 19,4%, а на „Энэргіі“ (Менск) — толькі 13,8%. У друкарні імя Сталіна (Менск) партыйная праслойка даходзіць да 30,5%, а ў друкарні Палесдруку яна раўняецца ўсяго 18,4%. Няроўнамернасьць партыйнай праслойкі па розных галінах прамысловасьці і на розных прадпрыемствах выклікаецца цэлым шэрагам прычын.

Няроўнамернасьць тлумачыцца складам рабочых. Трэба ўспомніць, як складаліся нашы буйнейшыя прадпрыемствы. Шмат з іх упітвалі значную колькасьць сялян, саматужнікаў, моладзі. Гэтая няроўнамернасьць партыйнай праслойкі тлумачыцца асаблівасьцямі прадпрыемстваў. Напрыклад, сэзонным характарам вытворчасьці, дзе маецца шмат сэзонных рабочых, большай ці меншай сувязьзю рабочых з сельскай гаспадаркай і г. д. Але справа ня столькі ў гэтых асаблівасьцях. Няроўнамернасьць партыйнай праслойкі ў розных галінах прамысловасьці, асабліва ў розных прадпрыемствах, якія знаходзяцца амаль што ў аднолькавых умовах, тлумачыцца, галоўным чынам, якасьцю партыйна-масавай работы на прадпрыемствах, увагай да той ціншай галіны прамысловасьці і прадпрыемстваў з боку парторганізацый.

Важнейшай задачай зьяўляецца ўнясеньне значных элемэнтаў мэтаўстрамлёнасьці ва ўсёй працы па вярбоўцы ў партыю. Перад намі стаіць задача значна пасіліць работу па ўзмацненьні партыйнага асяродку ў папяровай і шкляной прамысловасьці, а для гэтага патрэбна правесьці цэлы шэраг мерапрыемстваў па ўзмацненьні там усёй партыйнай работы. Мы таксама павінны зьвярнуць увагу на тое, што па тых галінах прамысловасьці, дзе працуе больш за ўсё жанчын, партыйная праслойка ніжэй, чым там, дзе працуе большасьць мужчын. Такое-ж самае становішча мы назіраем у паасобных прадпрыемствах. Самымі слабымі цэхамі з пункту погляду колькасьці партыйнага асяродку зьяўляюцца тыя цэхі, дзе большасьць жанчын. Гэта яшчэ раз сьведчыць аб неабходнасьці зрабіць перalом у галіне вярбоўкі жанчын у партыю.

* * *

Усе прааналізаваныя намі матэрыялы сьведчаць аб тым, што КП(б)Б за апошнія тры гады значна вырасла, *тэмп* росту КП(б)Б таксама зьяўляецца здавальняючым. Яшчэ раз падкрэсьліваем, што КП(б)Б значна вырасла *за лік рабочых з вытворчасьці, за лік перадавых колгасьнікаў*. Здавальняючы прыём у партыю зьяўляецца вынікам правільнай генэральнай лініі партыі і ён сьведчыць аб тым, што наша КП(б)Б кроўна зьвязана з рабочымі масамі і колгасьнікамі. Разгром троцкізму, правага опортунізму ўзмацніў сувязі партыі з рабочымі масамі, з колгасьнікамі. Мільённы прыток у УсеКП(б) за апошнія тры гады—вось адзін з адказаў рабочых на спробы агентаў кулацтва, буржуазіі разарваць партыйнае адзінства.

Побач з здавальняючымі вынікамі ў галіне росту за лік рабочых і колгасьнікаў, мы маем шэраг недахопаў у рабоце па вярбоўцы і рэгуляваньні прыёму ў партыю. Зьмяншэньне процанту рабочых з вытворчасьці за 1930 год зьяўляецца вынікам шэрагу прычын. Вышэй мы аб гэтым гаварылі. (Паміж іншым трэба адзначыць нездавальняючае становішча

партыйнай статыстыкі, асабліва пасьля ліквідацыі акруг). Як асноўную прычыну трэба адзначыць *недастатковую ўвагу да пытаньняў рэгуляваньня росту партыі;* павялічэньне проценту служачых, колгасьнікаў за другую палову 1930 г. пры адначасовым зьмяншэньні проценту рабочых з вытворчасьці паказвае, што ў цэлым шэрагу партыйных організацый Беларусі былі нядбайныя адносіны да рэгуляваньня росту партыі.

Трэба ўзмацніць вярбоўку ў партыю рабочых, колгасьнікаў, асабліва жанчын, комсамольцаў. Новы ўздым рабочай актыўнасьці ў выкананьні задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі, новы ўздым колгаснай хвалі—усё гэта павінна даць новы, магутны прыліў у партыю. Але гэты ўздым будзе рэалізаваны толькі ў тым выпадку, калі мы перабудуем партыйную работу на прадпрыемстве, у саўгасе і колгасе. Перад партыйнымі організацыямі стаіць надзвычайна важная задача ўзмацніць работу па вярбоўцы і палепшыць рэгуляваньне прытоку ў партыю. Перад намі стаіць востра задача дыфэрэнцыяваць нашу работу ў галіне вярбоўкі ў партыю. Нам патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўзмацненьне партыйнага асяродку ў тых галінах прамысловасьці, на тых прадпрыемствах, дзе яна недастаткова, дзе яна ніжэй сярэдняга. Для гэтага патрэбна конкрэтнае кіраўніцтва з боку Гаркомаў і Райкомаў справай вярбоўкі ў партыю. Пры выкананьні гэтых задач мы бязумоўна ліквідуем маючыяся недахопы.

О. Конакоцін

# Задачы тэорэтычнай вучобы партактыву *)

## . Роля актыву ў сучасны пэрыод

У сучасны пэрыод складаных умоў міжнародных адносін, у пэрыод калі партыя вядзе самую жорсткую, самую рашучую і бязьлітасную барацьбу на два фронты — у гэтых умовах роля актыву, бязумоўна, значна падвышаецца.

XVI зьезд партыі вуснамі т. Сталіна заявіў: „яскрава, што пытаньне, „хто каго“, пытаньне аб тым, ці соцыялізм пераможа капіталістычныя элемэнты ў прамысловасьці альбо яны перамогуць соцыялізм — ужо вырашана ў асноўным на карысьць соцыялістычных форм прамысловасьці. Вырашана канчаткова і беспаваротна“. Мы зараз праводзім вялікую барацьбу за сканчэньне пабудовы фундаманту соцыялізму ў гэтым трэцім рашаючым годзе пяцігодкі. Мы прымаем усе захады для таго, каб хутчэй скончыць адказьнейшую задачу — ліквідаваць кулацтва як клясу на базе суцэльнай колектывізацыі. Мы павінны ведаць тыя падводныя камні, якія і надалей будуць сустракацца на шляху правядзеньня гэтай лініі партыі. Клясавы вораг ня толькі супраціўляецца, але і актыўна выступае супроць нас. Мы гэта бачым ня толькі на справе „прампартыі“, на справе партыі меншавікоў, на справе нацдэмаў. Бачым гэта на прыкладзе працы ў раёнах. У Аршаншчыне існавала група, якая ставіла задачай паліць колгасы і біць комуністых. У Касьцюковічах была моцная групка, контр-рэволюцыйнага зьместу, ці пад меншавіцкай, ці нацдэмаўскай шыльдай.

Абвостраная клясавая барацьба патрабуе ад нашага актыву асаблівай пільнасьці, асаблівага чуцьця. Яна патрабуе ад актыву, каб ён добра ведаў вучэньне Леніна аб клясавай барацьбе, каб ён ведаў тактыку гэтай барацьбы, якой навучаў нас Ленін, якой навучае нас партыя Леніна. Усё гэта мы павінны мець на ўвазе, калі гаворым аб ролі партыйнага актыву, аб значэньні для актыву марксыцка-ленінскай тэорыі, як зброі, пры дапамозе якой актыў можа па-бальшавіцку змагацца за лінію партыі.

Асаблівасьці соцыялістычнага будаўніцтва ва ўмовах БССР патрабуюць ад нас зразуменьня гэтых умоў. Тэмпы будаўніцтва БССР значна перавышаюць агульна-саюзныя тэмпы будаўніцтва. Для ўсяго саюзу прадугледжана першапачатковай накідкай па пяцігодцы — 280% уздыму ўсяе народнае гаспадаркі, а па БССР па папярэдніх меркаваньнях пяцігодкі мы павінны ўзьняць прамысловасьць на 428%.

*) Гэты артыкул зьяўляецца скарочанай і апрацаванай прамовай на нарадзе па партыйнай асьвеце пры ЦК КП(б)Б.

У трэцім рашаючым годзе пяцігодкі ў прамысловасьць, аб'яднаемую ВСНГ, увальлюцца 35 тысяч новых пролетараў, колькасьць пролетараў у гэтым годзе дасягне амаль 100 тысяч у воднай толькі прамысловасьці.

У гэтым годзе ў соцыялістычны сэктар с.-г. прыдуць 43-45 тысяч новых работнікаў. Калі падлічыць, гэтая лічба разьбіваецца так: 7 тыс. пролетараў, якія зьвязаны будуць з мэханізацыяй с/г.; 8-10 тысяч пролетараў патрабуецца для 44 фабрык па першапачатковай апрацоўцы ільну-валакна, у сьвінаводчаскіх саўгасах — каля 10 тыс. рабочых; у зернавых і малочных саўгасах ня менш 6 тыс. чалавек і 12 тыс. рабочых сэзоньнікаў. Калі ўсё гэта мы падлічым, атрымаецца агульная лічба ў 43-45 тыс. новых рабочых у сельскай гаспадарцы. Твар некаторых раёнаў БССР карэнным чынам будзе зьменены ўжо за гэту вясну. У некаторых раёнах зьявяцца машына-трактарныя станцыі (у 50 трактараў кожная) і 2 ільнозаводы. Задачы актыву, як практычных кіраўнікоў, як камандзіраў гэтай соцыялістычнай будоўлі, камандзіраў у нашым партыйным, у ленінскім сэнсе слова, значна падвышаюцца. Мы не павінны забываць аб тых тэмпах, з якімі будзем узьнімаць нашу гаспадарку ў гэтым рашаючым годзе пяцігодкі.

У БССР мы за гэту вясну павінны забясьпечыць вялікі новы ўздым у бок колектывізацыі.

Другі момант, які неабходна ўлічваць, — гэта складаныя нацыянальныя ўмовы, у якіх мы павінны правільна вырашаць ленінскую нацыянальную політыку. Мы гэта зможам зрабіць толькі тады, калі партактыў — будзе добра ўзброены ленінскімі ведамі, калі ён будзе правільна разумець ленінскія прынцыпы нацыянальнай політыкі.

Прымежнасьць БССР патрабуе ад нас асаблівай увагі і вывучэньня рэволюцыйнага руху Польшчы і Заходняй Беларусі. Мы гэтага яшчэ добра ня ведаем. Вывучэньне пытаньняў Зах. Беларусі і Польшчы зьяўляецца для нашага актыву баявымі задачамі, а ў нас, праўду кажучы, умеюць „вывучаць" політычную географію, напрыклад, так, як у Віцебску, калі за 30 хвілін прайшлі ўсю карту і за пяць хвілін рашылі прайсьці Японію, кажучы, што гэтага хопіць для Японіі.

Гэтыя пытаньні неабходна дасканала вывучыць і таму, што зараз як ніколі востра стаіць пытаньне абароназдольнасьці краіны ў сувязі з шалёнай падрыхтоўкай нападу на Савецкі Саюз імпэрыялістычнага Захаду і Польскага фашызму ў асаблівасьці.

Усе гэтыя ўмовы і асаблівасьці БССР патрабуюць ад нас яшчэ большай мобілізацыі ўсёй партыйнай масы на барацьбу на два фронты за генэральную лінію партыі.

Уменьне правільна кіраваць масамі ў барацьбе за генэральную лінію партыі, у барацьбе на два фронты зьяўляецца адказьнейшай справай для актыву. Каля 80% КП(б)Б — гэта маладыя члены партыі. З 46 тысячнай організацыі КП(б)Б — адна трэцяя частка зьяўляюцца кандыдатамі, пагэтаму старыя кадры партыі нясуць асаблівую адказнасьць перад усёй УсеКП(б) і пролетарыятам за выхоўваньне гэтага маладняка, які не прайшоў адпаведнай школы падпольнай работы, грамадзянскай вайны. Мы адказваем таксама за выхоўваньне таго рабочага маладняка, які нядаўна прышоў з вёскі на фабрыкі і заводы. Гэтыя ўмовы таксама ні на адну хвіліну мы не павінны забываць, калі гаворым аб задачах вучобы актыву, бо актыў павінен быць тут перадавіком, ён павінен быць кіраўніком у падрыхтоўцы, у бальшавіцкім выхоўваньні маладых таварышоў.

## II. Абвастрэньне барацьбы на тэорэтычным фронце

„У нас цяпер па-новаму“ гаворыць тав. Сталін: „ставіцца пытаньне аб НЭП‘е, аб клясах, аб змычцы, аб політыцы партыі... Мы павінны перамагчы буржуазныя тэорыі, якія засьмечваюць галавы нашым практыкам, і ўзброіць іх марксыска-ленінскай тэорыяй“.

Ці-ж мы з вамі ня ведаем, што Рубінаўшчына ў політ-экономікі зьяўляецца контр-рэволюцыйнай меншавіцкай тэорыяй, што профэсар Рубін, які „комэнтыраваў“ Маркса, на справе выконваў задачы II-га Інтэрнацыяналу па падрыхтоўцы інтэрвэнцыі Савецкага Саюзу.

Стоіць толькі ўзяць матэрыял па справе меншавікоў і вы ўбачыце сапраўдны твар пана Рубіна. Ці Рубін ня путаў галавы нашым практыкам?

Барацьба супроць буржуазнных тэорый зьяўляецца аднэй з нашых галоўных задач. Актыў у першаю чаргу павінен ускрыць і ўсьвядоміць сутнасьць гэтых „тэорый“.

Возьмем прыклады нацыянал-дэмократызму і яго агентаў у партыі—нац. опортуністых.

Тэорыя нацдэмократызму зьяўляецца ня толькі буржуазнай тэорыяй, але і служаць дапаможнікам па організацыі інтэрвэнцыі Беларусі з боку Польшчы.

Неабходна таксама яшчэ больш разгарнуць барацьбу з дэборыншчынай—гэтым меншавіцтвуючым ідэалізмам, з мэханізмам на фалёзофскім фронце.

Нам вядома, што так званая „Т. К. П.“ гэта кулацка-контр-рэволюцыйная організацыя ў сваіх паказаньнях спасылаецца на тое, што яна спадзявалася на падтрыманьне яе з боку правых опортуністых.

Выкрыцьцё карэньняў правага опортунізму, паказ куды вядзе тэорыя правых таксама зьяўляецца аднэй з задач вучобы партактыву.

За невялікі адрэзак часу ў БССР мелася шмат выпадкаў, калі варожыя нам тэорыі знаходзілі свой адбітак на практыцы (прышчэпаўшчына, справа БАН, БДВ НКА і інш.).

Зусім нядаўна мы мелі справу Барысаўскага парткіраўніцтва. Барысаўскае кіраўніцтва праглядзела такую справу, як вялікую засьмечанасьць колгасаў кулацкімі элемэнтамі. Барысаўскае кіраўніцтва праглядзела самыя агідныя праявы зажыму самакрытыкі, аж да забораны выпуску коопэрацыйнай газэты.

У Копылі сабралі ня больш ня менш, як 167 сялян (беднякоў і серадмякоў) і пасадзілі іх на лаву падсудных і судзілі за тое, што быццам яны ня выканалі сваіх абавязкаў па контрактацыі. Вось як ў даным выпадку популярызавалі справу контрактацыі.

Гэта значыць рабіць ня толькі анты-партыйны, але і контр-рэволюцыйны ўчынак.

Возьмем усім вядомыя прыклады, як зажым самакрытыкі ў Чарэі, альбо яскравыя праявы правага опортунізму ў Чырвонай Слабадзе. У Касьцюковіцкім раёне ў шэрагі партыі пралезьлі і зараз выяўлены нават кулакі і былыя бандыты. Такія факты зьяўляюцца, з аднаго боку, вынікам актыўнасьці варожых кляс і з другога боку — недастатковай пільнасьці парторганізацыі.

У Усебеларускай Саўпартшколе пры вывучэньні экономічнай географіі падзялілі Беларусь на тры часткі: БССР, Зах. Беларусь пад окупацыяй Польшчы і Усходнюю Беларусь (толькі не напісана пад окупацыяй РСФСР). Ад чаго гэта ўтвараецца? Ад таго, што людзі трымаюць галаву на бекрэнь, думаючы, што кіраваць, гэта азначае

падпісаць, класьці штэмпель. У газэце Комвузу „Ленінец“ пісалі ў 30 годзе, што Янка Купала ў дні Кастрычніка быў нэўтральным і што студэнты і асьпіранты памыляюцца калі Янку Купалу западазраюць у тым, што ён у дні Кастрычніка быў варожым. І гэта пасьля выкрыцьця нацдэмаўскіх спраў, пасьля выкрыцьця сапраўднага твару Янкі Купалы.

Мы вельмі мала зьвярталі ўвагі на „алілуйшчыкаў“, якія пачынаюць амаль кожнае выступленьне славамі: „пры разгорнутай рашучай барацьбе... пры ліквідацыі кулацтва, як клясы... як галоўнай небясьпекай... пры барацьбе з праявамі шовінізму, пры рашучым вылучэньні жанчын на кіруючую работу“... і г. д. і г. д. А калі паглядзім, як гэты чалавек выконвае на *справе,* як гэты чалавек *разумее* тое, аб чым ён казаў, дык не заўсёды будзем мець добрыя вынікі.

Нам трэба, каб людзі *ня толькі гаварылі лёзунгі партыі, але і ажыцьцяўлялі іх, змагаліся за іх.*

Усё сказанае паказвае, як зараз павышаецца роля актыву, як зараз ускладняюцца задачы, як падвышаецца адказнасьць за пасьпяховую мобілізацыю ўсёй партыі на барацьбу на два фронты, на барацьбу за генэральную лінію партыі.

Сказанае сьведчыць аб тым, што ў нас у гэтай справе ня ўсё добра.

Бязумоўна, было-б памылкай, калі-б мы сказалі, што мы „топчамся на адным месцы.“

На сеньняшні дзень аб нас, аб бальшавіках так не гавораць нават нашы ворагі. Дзейнасьць усіх „Рамзіных“, „Рубіных“, дзейнасьць усіх контр-рэволюцыйных Лёсікаў і інш. была накіравана на тое, каб спыніць тэмпы нашага росту, каб затрымаць наш буйны рост.

Гутаркі аб тым, нібыта мы топчамся на месцы, ня ідзем ўперад— зьяўляюцца памылковымі і шкоднымі, гэта праявы дробна-буржуазнага ўпадніцтва.

Наш актыў, бязумоўна, ідэолёгічна ўзмацніўся, але гэта ня здымае вастраты пытаньня аб вучобе актыву.

## III. За выкананьне дырэктыў партыі аб вучобе

Дырэктывы нашай партыі аб узмацненьні марксыцка-ленінскага ўзброеньня актыву выконваюцца яшчэ да гэтага часу вельмі і вельмі нездавальняюча. Возьмем самыя апошнія пастановы. Пастанова ЦК УсеКП(б) аб задачах партасьветы ад 13/XI-30 г. гаворыць аб пашырэньні сеткі, аб 100%-ным ахопе актыву, аб пашырэньні сеткі саўпартшкол, вячэрніх комвузаў і г. д.

У пастанове ЦК КП(б)Б таксама гаворыцца: „Адзначаючы нездавальняючае становішча тэорэтычнай вучобы кіруючага парт. актыву, ЦК зварачвае ўвагу ўсіх організацый на задачы 100% ахопу марксыцка-ленінскай вучобай актыву, захоўваючы добраахвотнасьць выбару форм. ЦК лічыць неабходным прадаставіць для заняткаў партактыву, акрамя поўнага выкарыстаньня дзён адпачынку, яшчэ да 5 вечароў у месяц“.

Мы яшчэ вельмі дрэнна змагаемся за выкананьне гэтых дырэктыў. Вось прыклад: Віцебск мае вялікую парт. організацыю, а ў вячэрнім комвузе вучыцца з ліку актыву толькі адзін сакратар ячэйкі.

Мы сустракаемся з поўнай недаацэнкай вучобы актыву з боку шэрагу нашых раённых т-шоў. У Менску ў значнай меры параламілі гэтую коснасьць. Зараз у Менску працуюць курсы актыву, 600 ч.

актыву займаецца ў вячэрнім комвузе. Т. Аронштам, калі быў сакратаром Акругкому, вучыўся на завочных курсах марксызму і зараз у Смаленску выканаў 7 заданьняў, у тэй час, як некаторыя т-шы, седзячы на раёне, гавораць: „мне вучыцца вельмі цяжка“ і ня выканалі ніводнага заданьня. Як бачыце, што тут справа не ў занятасьці, а ў правільным разуменьні неабходнасьці вучыцца, і ўменьні рацыянальна скарыстаць свой час.

У адносінах укомплектаваньня Комвузу і Саўпартшколы меліся самыя недапушчальныя выпадкі з боку паасобных раёнаў. У некаторых раёнах разважалі так: „хто непатрэбен, альбо ў каго ёсьць якія-ліба загібы, давай пашлем туды, няхай выправіцца“; пасылалі таксама хворых, альбо тых, хто не спраўляецца з работай.

У выкананьні дырэктыў партыі па вучобе актыву ў нас, у КП(б)Б, маецца шэраг палітычных прарыў, якія выцякаюць з опортуністычнай недаацэнкі вучобы. Мы павінны мобілізаваць увагу КП(б)Б на ліквідацыю гэтых палітычных прарываў. Партвучоба, — *адна з баявых задач, непадзельная частка ўсёй партработы* і выкрэсьліць партыйную вучобу, як чужароднае цела з усёй партработы, г. зн. *абязброіць партыю*.

### IV. Сетка і формы вучобы актыву

Пяройдзем да пытаньня — аб сетцы і формах вучобы. Мы маем вялікую сетку вучобы актыву. У мінулым годзе адчынілі дом партасьветы, праз гэты дом ужо прапусьцілі 179 чалавек. Дом партасьветы ставіць сябе задачай перападрыхтоўку нашых кіруючых працаўнікоў— членаў ЦК і ЦКК, сакратароў РК, старшынь РКК, Оргпропаў і Культпропаў. Дом партасьветы ставіць сваёй задачай, побач з прапрацоўкай проблем сучаснасьці, прывучыць т-шоў да самастойнай працы над кніжкай, над Марксам, Энгельсам, Леніным; падвышэньне палітычнага і тэорэтычнага ўзроўню кіруючага складу КП(б)Б. Дом партасьветы ня дрэнна выконвае гэтыя задачы ў асноўным, ня гледзячы на шмат хібаў і недахопаў. Праз Дом партасьветы ў год мы павінны прапусьціць каля 360 ч. Плянавая работа Дому парушаецца ў выніку недаўкомплектаваньня, у выніку таго, што раёны ў шмат выпадкаў не адпушчаюць некаторых т. т. на вучобу, ня гледзячы на адпаведныя пастановы ЦК. Комсамол ні ў І-шы, ні на ІІ-гі склік ня даў ніводнага чалавека, заяўляючы, што нельга зьняць з работы.

Неабходна зьвярнуць увагу на задачу комплектаваньня Комвузу. У гэтым годзе трэба набраць у Комвуз 470 асоб на першы курс, на аддзяленьні: савецкае будаўніцтва, партыйнае, пропагандыцкае, газэтнае і 2 нац. сэктары — польскі і яўрэйскі. Комплектаваньне Комвузу павінна стаць у цэнтры ўвагі раёнаў. У саўпартшколы па вызначанаму ЦК контынгенту, мы павінны прыняць у 1931 г. 600 чал. Гомельская школа ня справіцца і напалову з гэтай задачай, таму зараз практычна ставіцца пытаньне, аб організацыі яшчэ дзьвёх СПШ (у Віцебску і Магілеве). Адна саўпартшкола нават ня можа задаволіць папярэдняй падрыхтоўкі кадраў толькі для Комвузу.

Наступным зьвяном вучобы актыву зьяўляецца курсавы сэктар пры Комвузе, які аб'ядноае курсы актыву, комсамольскія, нарасьветы і часовыя газэтныя курсы. Курсы актыву рыхтуюць і перападрыхтоўваюць працаўнікоў савецкага апарату, партыйнага апарату і пропагандыстых. Па чарнавых падліках гэтыя курсы раённага актыву пры Комвузе павінны ў год даць перападрыхтаваных 100 пропагандыстых.

Курсы раённага партыйнага актыву пры Комвузе цалкам на сеньняшні дзень сябе апраўдваюць. Яны абслугоўваюцца лепшымі выкладчыкамі і ў матар‘яльных адносінах знаходзяцца ня ў дрэнным становішчы, але гэтыя курсы неабходна яшчэ пашырыць колькасна і палепшыць якасна. Пры Усебеларускай Саўпартшколе адчынены на 50 асоб курсы для падрыхтоўкі парторганізатараў, сакратароў колгасных ячэек, курсы для падрыхтоўкі нізавога зьвяна актыву, які працуе на вытворчасьці і ў колгасе. Патрэбна прыналегчы на гэтую справу, бо пакуль што на курсы пасылаюць людзей вельмі марудна і вельмі павольна.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на падрыхтоўку комсамольскага актыву. У БССР курсы комсамольскага актыву ў мінулым годзе мелі 150 слухачоў. У гэтым-жа годзе яны маюць усяго 50 чалавек, гэтае памяншэньне пры ўзрастаючым запатрабаваньні ў падрыхтаваных комсамольскіх работніках зьяўляецца зусім ненормальным зьявішчам.

Гэта, бязумоўна, буйны прарыў у падрыхтоўцы кадраў комсамолу. ЦК ЛКСМБ трэба ўзьняць „Чырвоную зьмену“ на сапраўдную ба(рацьбу за падрыхтоўку кадраў. Мінімумам зьяўляецца пашырэньне курсаў комсамольскага актыву да 150 слухачоў, г. зн. да ўзроўню мінулых гадоў, каб на кожны раён у год выпускаць па аднаму таварышу, а ў буйныя раёны па 2. Падкрэсьліваем, што гэта мінімум. Трэба такія заданьні выконваць з комсамольскім энтузіязмам.

Мы маем зараз і такі від вучобы актыву, як курсы воднікаў у Магілеве і чыгуначныя — у Віцебску і Гомелі. Перад адпаведнымі організацыямі стаіць задача наладзіць курсы, як сьлед, каб яны адпавядалі задачам і асаблівасьцям падрыхтоўкі кадраў для транспорту.

Улетку г/г вызначана правесьці 4 куставых курсаў (у Менску, Віцебску, Гомелі і Магілеве) па падрыхтоўцы пропагандыстых, з агульным контынгентам ня менш 240—300 пропагандыстых з улікам спэцыялізацыі гаспадаркі нашых раёнаў.

Гэта сталая дзённая сетка: комвуз, саўпартшколы, Дом партасьветы, курсавая база комвузу, — Гомельскай саўпартшколы, курсаў пропагандыстых па 4-х кустах, курсаў воднікаў у Магілеве, курсаў чыгуначнікаў у Віцебску і Гомелі.

Вячэрняя сетка не заўсёды добра наладжана: Усебеларуская школа і Комвуз маюць вячэрнія сэктары, але гэтыя сэктары толькі мясцовага значэньня—для Менску і Гомелю. Трэба паставіць рашуча пытаньне аб тым, каб комвуз БССР быў сапраўдным памочнікам і кіраўніком вячэрнімі комвузамі ў іншых буйных гарадох. А трэба сказаць, што гэтага яшчэ няма. Трэба палепшыць праверку і кіраўніцтва з боку Культпропу ЦК работай гэтых комвузаў.

Завочнае навучаньне мае вялікую сетку. Мы маем таварышоў і ў Інстытуце Чырвонай Профэсуры, на курсах марксызму, у завочным комвузе Масквы, Ленінграду, у завочным комвузе Беларусі і г. д. Гэтая форма завочнай вучобы павінна ахапіць значную колькасьць партактыву. А на справе ў значнай колькасьці раёнаў завочная вучоба ператвараецца ў завочнае очкаўціракцельства.

Мы павінны правераць работу завочнікаў, стварыць для іх адпаведныя ўмовы вучобы, організаваць дапамогу і кіраўніцтва (конфэрэнцыі, консультацыі).

Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на завочнае навучаньне па радыё. Пры ЦК УсеКП(б) організаваны Інстытут па масаваму завочнаму навучаньню, у нас пры ЦК КП(б)Б такі Інстытут таксама організуецца,

Туды будзе ўваходзіць завочная саўпартшкола, завочны комвуз, комсамольскі ўнівэрсытэт, курсы партактыву з агульным контынгентам у 7 тысяч чалавек. Сотня аўдыторый павінны знаходзіцца па раёнах. Ужо 34 аўдыторыі ў мінулым м-цы ўдзельнічалі ў пераклічцы і адказвалі, што яны слухаюць перадачу. Стаіць задача скончыць абсталяваньне астатніх 66 аўдыторый. Трэба цалкам скарыстаць радыё, скарыстаць тэхніку ў гэтай вялікай справе, і мы гэта здолеем, калі будзем работаць з бальшавіцкай настойлівасьцю.

За плян у 100 аўдыторый мы павінны драцца, як належыць, абсталяваць іх і прывесьці ў такі парадак, каб яны былі сапраўднымі цэнтрамі вучобы актыву. Раёны павінны забясьпечыць контынгент масавага завочнага навучаньня ў 7000 чалабек па той разьвёрстцы, якая будзе дана ад інстытуту масавага завочнага навучаньня пры ЦК КП(б)Б.

Набраць 7 тысяч і організаваць слуханьне лекцый — справа вялікая і адказная. У гэтай справе, у справе разгортваньня масавага завочнага навучаньня па радыё асноўную ролю павінны адыграць раённыя парт. габінэты. Яны павінны стаць тым месцам, дзе будзе згуртавана ўся гэта праца, апрача вячэрніх і дэкадных комвузаў. Неабходна разгортваньне кароткатэрміновых курсаў для раённага актыву з праграмай па паасобных пытаньнях. Напрыклад: аграрнае пытаньне ў сувязі з колектывізацыяй; нацыянальнае пытаньне і нац. палітыка; проблема генэральнага пляну і г. д. Такія курсы-конфэрэнцыі для актыву неабходна будзе ўвесьці як адну з асноўных найбольш гнуткіх форм вучобы актыву.

ЦК КП(б)Б наладжваецца паездка лектароў у раёны для чытаньня лекцый на розныя тэмы. Ужо такія лекцыі праводзяцца. Па пляну намечана паслаць прыкладна чалавек 40-50 на гэту справу з Менску. Пакуль што намечана ахапіць 12 раёнаў. Першы крок ужо зроблен. Зараз паўстае пытаньне аб пашырэньні ахопу колькасьці раёнаў.

Раённы актыў вельмі дрэнна інформаваны па розных пытаньнях, якія цікавяць яго і ўсю КП(б)Б. Аб усіх гэтых пытаньнях у газэтах не напішаш, і інформацыйныя лісты ЦК павінны зьявіцца непарыўнай часткай зьместу вучобы актыву.

І, нарэшце, па нашай думцы, неабходна шырока прымяняць такую новую форму вучобы актыву, як ленінскія вечары.

Што разумеецца пад ленінскімі вечарамі? У нас узьнікае шмат практычных пытаньняў, якія зьвязаны і выцякаюць з штодзённай работы і на што можна знайсьці адказ у Леніна, а мы, на жаль, у практычнай працы вельмі і вельмі рэдка зварочваемся да Леніна. Калі-б мы часьцей зварочваліся да Леніна, у нас было-б менш хібаў і памылак.

Па ленінскіх вечарох маем такі вопыт — таварышы, якія выяжджаюць на раён, падрыхтоўваюць цэлы шэраг пытаньняў, даюць сакратару РК, сакратар РК адразу не адказвае, а прапрацаваўшы гэтыя пытаньні, пашукаўшы той ці іншы адказ у Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, у пастановах зьедаў і г. д. дае такія адказы.

Гэтая справа вельмі карысная і каштоўная для бальшавікоў. Такую форму работы мы называем ленінскімі вечарамі, таму што гэта будзе вечар, калі актыў будзе Леніна чытаць, калі ў Леніна будуць браць адказы на запытаньні.

У справе кіраўніцтва вучобай актыву вялікую ролю адыгрывае Дом Комасьветы як з боку мэтодычнай дапамогі, так і па організацыі работы парт. габінэтаў у раёнах.

Каб падагуліць становішча вучобы актыву разгледзім наступны плян:

## ПЛЯН

### падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі актыву КП(б)Б і выкананьне пляну.

| Назва ўстановы: | Тэрмін навучаньня | Контынгент набору ў 1930 г. | Колькі выпушчана за 30 г. | Намечана за 31 г. прыняць | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Комвуз імя Леніна . . | 3 г. | 290 | 49 | 470 | Працуе 7-ы год |
| 2. Саўпартшкола. . . . | 2 г. | 100 | 95 | 600 | — |
| 3. Дом партасьветы пры ЦК. | 2 м-цы (6 выпуск. у год) | 360 (па 60 ч. у набор.) | 179 (за 6 склік.) | 360 | Адчынен ў ліпені 30 г. |
| 4. Курсы актыву пры комвузе (сярэдняе зьвяно) . . | Трохмесячн. 4 выпускі ў год) | 200 (па 50 ч. у набор). | 47 (за адзін склік) | 200 | Адчынены ў сьнежні 30 г. |
| 5. Курсы нізавога актыву пры Ўсебеларускай саўпартшколе. . . . . . . . | Трохмесячн. (4 выпускі ў год) | 150 (па 50 ч. у набор.) | — | 150 | Адчынены ў сакавіку 31 г. |
| 6. Курсы комсамольскага актыву пры комвузе . . . | Адзін год | 75 (фактычна прынята 50 асоб) | 100 | 150 | — |
| 7. Курсы пропагандыстаў . | 2 м-цы (Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў). | 240 (па 60 ч. на курс) | 118 | 240 | Курсы летнія |
| 8. Курсы воднікаў . . . | 1 м-ц Магілеў | 20 | — | 20 | Адчынены ў сакавіку 1931 г. |
| 9. Курсы чыгуначн. (Віцебск, Гомель) . . . . . | 2 м-цы | 40 | — | 40 | |
| 10. Вячэрні Комвуз у Менску | 2 гады | 600 | — | 600 | — |
| 11. Раённыя вячэрн. комвузы—Барысаў, Віцебск, Бабруйск, Гомель, Ворша і Магілеў . . . . . . . . | 2 гады | 540 | — | 540 | Арганізаваны ў 1930 г. |
| 12. Дэкадныя комвузы (было вызначана па 20 раёнах) . | 1 год | 400 | — | 800 | Арганізаваны ў 1930 г. толькі ў 10 раёнах |
| 13. Інстытут масавага завочнага навучаньня (ІМЗН) . . | разам | 1109 | — | 7000 | — |
| У тым ліку: | | | | | |
| 1. Завочны комвуз . . . | 3 г. | 509 | — | 2000 | — |
| 2. „ СПШ . . . | 2 г. | 600 | — | 2000 | — |
| 3. „ Комсам. У-т . | — | — | — | 1000 | — |
| 4. „ Курсы партактыву . . . . | 1 г. | — | — | 2000 | — |
| Усяго . . . | — | 4124 | 588 | 11170 | — |

Такім чынам, контынгент набору 1931 г. ва ўсіх зьвеньнях вучобы партактыву амаль у 3 разы (дакладна на 172%) перавышае контынгент 1930 г. Выкананьне гэтага пляну 1931 г. будзе адзначаць ліквідацыю разрыву паміж запатрабаваньнямі ў парткадрах і тэмпамі іх падрыхтоўкі. *Барацьба за выкананьне гэтай праграмы зьяўляецца для КП(б)Б ударнай і аднэй з асноўных задач.*

Вышэй мы гаварылі, што ў гэтым годзе ўжываюцца і такія формы вучобы актыву, як падвышанага тыпу кароткатэрміновыя марксыцкая ленінскія гурткі, курсы-конфэрэнцыі па паасобных пытаньнях, ленінскі-вечары і плянавыя эпізодычныя лекцыі. На гэты год плянам прадугледжана 80выезда ў лектароў з Менску ў 16 найбольш буйных раёнаў. Ужо спачатку гэтай работы высьветлілася мэтазгоднасьць гэтай формы вучобы і вялікія запатрабаваньні з боку раёнаў. Таму ўжо зараз перад Культпропам ЦК КП(б)Б паўстае пытаньне аб павялічэньні пляну і пашырэньні колькасьці ахопу раёнаў. „Вузкім" месцам тут зьяўляецца недахоп кваліфікаваных лектароў у Менску. Аднак, гэтае „вузкае" месца магчыма ліквідаваць шляхам скарыстаньня лектарскіх сіл з іншых гарадоў БССР і запрашаньня лектароў ад ЦК УсеКП(б). Дагэтуль яшчэ слабым месцам вучобы актыву зьяўляецца бесконтрольнасьць і недастатковая ўвага да завочнага навучаньня ў Сьвярдлоўскім і Ленінградзкім комвузах, курсах марксызму і І. Ч. П. (Інстытут Чырвонай Профэсуры.)

## V. Проблема кнігі для актыву

Ня менш важным зьяўляецца пытаньне проблемы кнігі для актыву.

Проблема кнігі для актыву абумоўлена той барацьбой, якая разгортваецца на ідэолёгічным фронце. Ужо ўсім вядома, што барацьба на ідэолёгічным фронце, барацьба за марксыцка-ленінскую тэорыю, з меншавіцка-рубінскай контр-рэволюцыйнай тэорыяй, з дэборыншчынай, з мэханістамі, з нацыянал-дэмократычнай тэорыяй, з нацыянал-опортуністычнай, — зьяўляецца аднэй з праяў абвастрэньня клясавай барацьбы, адным з паказчыкаў боек за лінію партыі, за марксызм, за ленінізм.

У падручніках па політэкономіі перад намі стаіць вялікая задача, задача, якую мы ўжо, праўда, з посьпехам вырашаем, але яшчэ ня вырашылі—ачышчэньне падручнікаў і дапаможнікаў ад налётаў і заносаў ідэалізму і мэханіцызму.

Стварэньне падручнікаў па політэкономіі зьяўляецца аднэй з актуальнейшых спраў ня толькі для нас, але і для ўсёй партсеткі УсеКП(б).

Ня трэба быць і спэцыялістым-экономістым, каб ведаць, што больш-менш здавальняючага падручніка па політэкономіі на сёньняшні дзень няма.

З падручнікамі па экономіцы сельскае гаспадарцы таксама ня лепш. Мы адкрылі такі факт, што ў нашым комвузе ў мінулым годзе экономіка сельскае гаспадаркі з аўтараў была прадстаўлена 5-ю шкоднікамі. Экономіку сельскае гаспадаркі вывучылі па Макараву, Нікіціну, Канюкову, Студзенскаму і Кажанаву і інш. пры слабой увазе да партыйных пастаноў, пры слабой увазе да комуністычных докумэнтаў па пытаньні сельскае гаспадаркі.

Такім чынам, у прыватнасьці ў БССР, падручнікаў па экономіцы сельскае гаспадаркі няма.

Як гэтыя буржуазныя тэорыі засьмечвалі галавы нашых актывістаў, прыкладаў у практыцы ня мала, аб гэтым неаднаразова сыгналізаваў друк.

Пры стварэньні і напісаньні падручнікаў па экономіцы сельскае гаспадаркі *ў цэнтр увагі трэба ўзяць і максымальна скарыстаць пастановы зьездаў і пленумаў УсеКП(б) і КП(б)Б па пытаньню соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.* У нас яшчэ вельмі і вельмі дрэнна скарыстоўваюць, напрыклад, прамову і тэзісы Якаўлева, пастановы VI зьезду СССР і г. д., а гэта лепшыя „падручнікі".

Такія-ж задачы стаяць і ў справе стварэньня падручнікаў па ленінізму, дыямату, гістмату і г. д.

У справе стварэньня падручнікаў па гісторыі партыі неабходна ўвязка гісторыі УсеКП(б) пасьлякастрычнікавага пэрыоду з гісторыяй такіх партый, як КП(б)Б, КП(б)У і комуністычнай партыі Арменіі, Грузіі і г. д. У нас пасьля кастрычнікаўскі пэрыод у гісторыі УсеКП(б) выключна грунтуецца на Цэнтральна-Чорназемнай вобласьці, на цэнтральна-прамысловай вобласьці і на Паўночнай вобласьці, далей гэтага ня выходзіць. Гэта зьяўляецца недахопам у падручніках па гісторыі партыі.

Трэба паставіць гэтае пытаньне перад інстытутам гісторыі партыі ЦК КП(б)Б і прасіць інстытут Леніна пры ЦК УсеКП(б) аб увязцы гэтых пытаньняў.

Тады нам значна лягчэй будзе спраўляцца з тымі задачамі, якія стаяць перад намі па вывучэньні гісторыі УсеКП(б).

Справа з падручнікамі даходзіць да таго, што па гісторыі Беларусі маецца кніга Ігнатоўскага, кніга Гарэцкага Максіма „Гісторыя Бел. літаратуры" і эконом-географія „паважанага" Смоліча. Усе гэтыя кнігі ня толькі з памылкамі, а нават і проста шкодныя.

Гэтыя падручнікі да гэтага часу былі не раскрытыкаваны. Толькі ў апошні год ізьялі гэтыя падручнікі, але дрэнна тое, што яшчэ нічым не замянілі гэтых падручнікаў.

ЦК КП(б)Б чатыры м-цы таму назад даручыў інстытуту партыі напісаць гісторыю Беларусі і гісторыю КП(б)Б і падручнікі па гісторыі.

Гэта зьяўляецца актуальнай справай. Далей ня можа быць такога становішча, калі няма такіх падручнікаў.

У нас яшчэ да гэтага часу няма артыкулаў, падабраных матар'ялаў, хаця-б у дакумэнтах „КП(б)Б у барацьбе за ленінскую нацыянальную політыку". А гэта актуальнейшая справа, неабходная на сёньняшні дзень для актыву.

У нас яшчэ агульна-адукацыйныя прадметы праходзяць па падручніках нац.-дэмократаў, напрыклад, па падручніку Міцкевіча. А бел-мова вывучаецца па Лёсіку і г. д.

Трэба гэты прабел ліквідаваць.

Здаецца патрэбным, каб у „Бальшавіку Беларусі" быў дадзены шэраг артыкулаў па гэтых пытаньнях.

Мы ня можам напісаць усіх падрунікаў сваімі сіламі, але сілы для напісаньня большасьці падручнікаў у нас маюцца. Наша „навуковая гвардыя" можа гэта для партыі зрабіць і павінна зрабіць, бо гэта партыйны доўг комуніста навуковага работніка.

* *
*

Некалькі заўваг аб мэтодах працы і аб кіраўніцтве вучобай актыву. Першае—мэтоды сацыялістычнай работы ў вучобе актыву, як спаборніцтва групавое і індывідуальнае дагэтуль не зьяўляюцца сталымі мэтодамі работы.

Але гэтыя мэтоды ўздымуць адказнасьць нашых т-шоў за вучобу і зьявяцца крыніцай абмену вопытам вучобы.

Пару слоў аб кіраўніцтве з боку РК. Калі Райкомы дрэнна правяралі масавую вучобу, то зусім не правяралі вучобу актыву, у некаторых выпадках мабыць таму, што гэта ў першую чаргу закранала-б членаў Бюро Райкому.

Неабходна будзе паставіць сыстэматычна-плянавую праверку вучобы актыву, заслухоўваючы пэрсональныя даклады і даклады гурткоў, якія займаюцца. Неабходна самым рашучым чынам узяць пад агонь бальшавіцкай самакрытыкі праверку тэорэтычнай вучобы актыву і ў гатай справе раённыя газэты павінны быць мобілізаваны на ліквідацыю прарыву ў тэорэтычнай вучобе актыву.

Мы павінны агонь бальшавіцкай самакрытыкі накіраваць, ня гледзячы на асобы, на конкрэтных носьбітаў зла, на лятуноў у вучобе. У нас ёсьць тып лятуноў, якія „выбіраюць“ сабе формы на працягу году—пяць—дзесяць, лётаюць з адной установы ў другую. Па лятунох трэба біць як сьлед, трэба біць па прагульшчыках, па зрыўшчыках, а таксама трэба паказаць лепшыя прыклады ўдарніцтва. Нашы газэты, на вялікі жаль, гэтай справай мала займаюцца, не падхопліваюць, не мобілізуюць увагі.

Толькі разгарнуўшы самакрытыку ў партвучобе і, галоўным чынам, накіраваўшы агонь самакрытыкі на прарывы ў марксыцка-ленінскай тэорэтычнай вучобе актыву, мы мобілізуем увагу на барацьбу за падвышэньне бальшавіцкай баяздольнасьці КП(б)Б, на барацьбу за ўзбраеньне марксыцкай тэорыяй. Узбраеньне марксыцка-ленінскай тэорыяй актыву зьяўляецца адной з баявых задач КП(б)Б. Адной з умоў пасьпяховай барацьбы за ленінскую лінію нашай партыі.

---

В. Масевіч

# Барацьба за перабудову сельскай гаспадаркі

*(Боркавіцкі раён)*

XVI зьезд УсеКП(б) паставіў задачу ператварэньня т. зв. спажывецкіх раёнаў у вытворчыя раёны малака, гародніны, сьвінаводзтва, лёну. Гэтая задача з посьпехам вырашаецца ў БССР. Сельская гаспадарка Савецкай Беларусі шпаркім тэмпам перабудоўваецца з гаспадаркі спажывецкай, з гаспадаркі дробнай у гаспадарку перадавой жывёлагадоўлі і тэхнічных культур на базе колектывізацыі і разьвіцьця савецкіх гаспадарак.

Боркавіцкі раён зьяўляецца тыповым раёнам, дзе прышчэпаўсканацдэмаўская політыка заставіла вялікі сьлед, дзе пераважная частка б. панскіх маёнткаў засталася ўшчэнт разбуранай, а землі разьбітымі па хутарох. Толькі за апошнія два гады ўзяты рашучы напрамак па колектывізацыі вёсак і хутароў.

Да сучаснага часу абагулены сэктар с.-г. раёну (саўгасы, колгасы) абымае да 45% зямельнай плошчы, а ў колгасах налічваецца звыш 31% бядняцка-серадняцкіх двароў.

Боркавіцкі раён зьяўляецца адным з буйнейшых ільнаводных раёнаў, шпаркім тэмпам спэцыялізуецца ў раён таварнага ільнаводзтва і жывёлагадоўлі: пасеўная плошча пад ільном у 1930 г. была 3.571 *га*, у 1931 г. мяркуецца засеяць 7.264 *га* — рост на 103%; колькасьць буйнае рагатае жывёлы з 7.968 галоў у 1930 годзе мяркуецца давесьці да 10.076 гал. — прырост на 26,5%; па цялятах з 2.666 галоў да 6.122, рост на 142% па аўцах з 11.274 галоў да 15.781, — рост на 40%. Контрольныя лічбы па сельскай гаспадарцы на 1931 г. даведзены да колгасаў і бядняцка-серадняцкага двара і імі ў асноўным прыняты. Такім чынам, ёсьць поўная ўпэўненасьць, што плянавыя намёткі будуць выкананы. Разам з гэтым пашыраецца кармовая база жывёлагадоўлі як, напрыклад, пашырэньне засеву канюшыны, караньплодаў, сілосаваньне кармоў і г. д.

Зроблены значны зрух у справе спэцыялізацыі гаспадарак: арганізаваны буйны ільна-саўгас на 7000 *га*, які ўжо ў мінулым годзе засеяў 436 *га* лёну, а ў 1931 годзе будзе засеяна 1.200 *га* лёну, праводзіцца спэцыялізацыя 24 колгасаў, як ільнаводных, жывёлаводчых, 5 колгасаў сьвінаводчых, 3 птушкавод. жывёлаводч. колгасаў, але ў справе спэцыялізацыі колгасаў няма адпаведнай чоткасьці як у РВК, так і РКС. У раёне будуецца завод па першапачатковай апрацоўцы ільну, які ўжо ў бягучым годзе павінен пераапрацаваць да 10.000 тон сырцу і гэтым самым будзе стымуляваць пашырэньне ільнаводзтва раёну.

У справе правядзеньня гаспадарча-політычных кампаній Боркавіцкі раён у некаторых галінах займае адно з першых месц па БССР, але па важнейшых вучастках раён ганебна адстае.

Збожжанарыхтоўкі ў асобным квартале 1930 г. далі 112% выкананьня і 105% сустрэчнага пляну. Дадатковыя збожжанарыхтоўкі раёну даюць значнае перавышэньне плянавых наметак. Бульбанарыхтоўкі ў асобным квартале далі 105% выкананьня квартальных заданьняў. Мобілізацыя сродкаў: сельгаспадатак выканан на 89%, самаабкладаньне 1931 г. на 89,8%, страхоўка на 90,8%, аднаразовы збор на 88,2%. Па становішчу на 20 сакавіка 1931 г. ганебна адстае выкананьне квартальных заданьняў І-га кварталу 1931 г.: па селькрэдыту выканана на 59,1% на 20/III-31 г., мобілізацыя сродкаў па лініі спажыўсыстэмы выканана на 78,7% квартальнага пляну, па ашчадкасе — выкананьне на 15,6%. Ганебна адстаюць лесанарыхтоўкі і лесавывазкі, а таксама дарожныя работы. Праведзены месячнік ліквідацыі прарываў хаця і даў некаторы зрух, але пляны далёка ня выкананы. Ільнанарыхтоўкі выкананы на 48,2% гадавога заданьня на 25/II. Значная частка ільну да 1.500 тон ляжыць у саломе (у саўгасе і колгасах), што складае звыш 40% пляну нарыхтовак.

Падрыхтоўка да другой бальшавіцкай вясны праходзіць больш плянава, больш організавана чым у першую вясну: у асноўным даведзены контрольныя лічбы да гаспадарак, вядзецца ачыстка насеньня ў першую чаргу ў колгасах, праводзіцца рамонт інвэнтару і збруі. Галоўнае ў падрыхтоўцы да бальшавіцкай вясны — гэта значнае пашырэньне колектывізацыі, што сьведчыць аб рашучым павароце бядняцка-серадняцкага сялянства на шлях колектывізацыі.

Усе мерапрыемствы па правядзеньні соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі раёну і яе спэцыялізацыі як ільнаводна-жывёлаводчай, правядзеньне гаспадарча-політычных кампаній патрабавалі максымальнай увагі і энэргіі з боку партыйнай організацыі і вясковага актыву. Гэтая вялізарная работа праходзіла ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, супраціўленьня кулацтва ўсяму соцыялістычнаму наступу. Кулак і варожыя элемэнты тэрорам, падпаламі, агітацыяй імкнуліся пашкодзіць правадзімай Партыяй рабоце. Разам з гэтым кулак пралязаў нават у шэрагі партыі і „ціхай сапай“ падрываў соцыялістычную перабудову вёскі. Шэраг ілжэ-партыйцаў скарыстоўвалі прабываньне ў шэрагах партыі дзеля таго, каб дапамагчы клясаваму ворагу як сваёй дзейнасьцю, так і бязьдзейнасьцю. У асеньня-зімовы пэрыод у некаторых зьвеньнях парторганізацыі мелі месца скрыўленьні лініі партыі, як: „ня ўменьне“ знайсьці кулака і заможную частку вёскі і перагібы ў час нарыхтовак у адносінах да бядняцка-серадняцкіх гаспадарак (Замшанскі, Прудзінкаўскі, Галубаўскі с/с).

Па віне опортуністычнага кіраўніцтва Райколгассаюзу (тав. Сьвірко) у шэрагу колгасаў жывёла была пастаўлена пад пагрозу бяскорміцы, к вясьне не хапае нават саломы.

У некаторых с/с і колгасах была орыентацыя на кулацка-заможную частку сялянства пры поўнай атсутнасьці работы з беднатой і ігнараваньні беднаты, атсутнічаў нажым на кулака (Боркавіцкі, Галубаўскі, Кушлікоўскі, Дзернавіцкі с/саветы).

Вось букет права-опортуністаў, агентаў клясавага ворага, якія да гэтага часу шкодзілі нашай партыі:

1. Касач Даніла Вінцэсяў, б. член партыі, сын былога буйнага арандатара, у 1923 г. організаваў ілжэ-арцель з 5 сямей, галоўным чынам, з кроўных. У арцель ня былі дапушчаны былыя батракі ма-

ёнтку Канстантынава Замшанскага с/савету. Дзеля таго, каб прыкрыцца, Касач Д. падгаварыў уступіць у арцель бедняка Шаўлу Кузьму, якога спачатку абралі старшынёй арцелі, а калі зямельныя органы зацьвердзілі арцель, бядняк Шаўла быў выкінуты з арцелі. Арцель эксплёатавала батракоў і беднату, даючы хлеб і грошы на кабальных умовах. З 1930 г. Касач Д. быў перакінуты ў комуну „Новая Зара“ Галубаўскага с/савету, дзе быў абраны старшынёй комуны, адначасова зьяўляючыся адказным сакратаром ячэйкі КП(б)Б. Касач Д. комуну давёў да поўнага развалу, за што быў асуджаны Райсудом, на адзін год забаронена займаць адказныя пасады; у колгасах Галубаўскага с/савету, што кіраваліся ячэйкай КП(б)Б на чале з Касачом, быў шэраг праяў правага ўхілу на практыцы: да апошняга часу на чале колгасу „Шлях да соцыялізму“ стаяў былы абшарнік гэтага-ж маёнтку Бараўцоў, які нават са згоды былога сакратара РК КП(б)Б тав. Восіпава і старшыні РВК тав. Мурзо быў застаўлены старшынёй колгасу; у колгас „Юны Мір“ улезла значная частка кулацка-заможных гаспадароў, якія разлагалі колгас, с/савет увесь час патураў кулаку і г. д.

2. Капцюк Паўла Дзімітраў, былы член партыі, сын кулака і былога арандатара, уступіў у партыю, скрыўшы сваё паходжаньне, будучы старшынёй Баркавіцкага с/савету, скрыўляў лінію партыі, пры выяўленьні кулацка-заможных гаспадарак праявіў надзвычайную мяккасьць да кулакоў, радню кулакоў і заможнікаў вызваляў ад давядзеньня цьвёрдых заданьняў, займаўся „очковтирательством“ у час нарыхтовак, даючы ў РВК няправільная пераўвялічыныя зьвесткі аб нарыхтоўцы лёну і інш. Давёў да поўнага развалу с/савет. РК і РВК зьняты з працы і перададзены суду. РКК выключаны з партыі, як чужды элемэнт.

3. Ільляшэвіч Антось Ігнатаў, б. член партыі, нядаўна выключаны, сын кулака Вульскага раёну, пазбаўлены права голасу. Дзеля таго, каб пралезьці ў шэрагі партыі, паехаў у Мурманск і паступіў на вытворчасьць, адтуль вярнуўся ў Савецкую Беларусь ужо партыйным, быў накіраваны ў Боркавіцкі ільно-саўгас у якасьці колёна-важатага, потым мэханіка. У саўгасе організаваў кулацкую групу і быў актыўным організатарам антысэміцкіх выпадаў і п‘янства, па яго віне былі выведзены з строю 4 трактары, якія былі замарожаны з вадой.

4. Клімовіч Клімент, член партыі, з 1917 г., б. старшыня комуны „Новая Культура“, у сваёй працы орыентаваўся на заможную частку і заціраў беднату і батракоў, у выніку чаго былі выхады з комуны. Клімовіч актыўна абараняў кулака Паруля пры яго высяленьні і даваў згоду на прыняцьце ў колгас дзяцей кулака. Дзякуючы опортуністычнаму кіраўніцтву Клімовіча комуна прышла да заняпаду.

5. Бернік Пётра Восіпаў, член партыі з 1926 г., працуючы старшынёю Галубаўскага с/савету, нядбайна адносіўся да сваіх абавязкаў, скрыўляў лінію партыі асабліва ў час правядзеньня гаспадарча-політычных кампаній, не кіраваў колгасамі і колгасным рухам, ігнараваў дырэктывы партыі па выяўленьні кулацка-заможных гаспадарак і давядзеньні ім цьвёрдых заданьняў, заяўляючы што „ў с/савеце кулакоў няма“, а калі даваў цьвёрдыя заданьні, то толькі формальна (зьменшаныя).

Гэты сьпіс можна было-б працягнуць яшчэ цэлым шэрагам экзэмпляраў гэтага махровага права-опортуністычнага букету, але і гэтага дастататкова, каб зрабіць заключэньне:

Першае: у Боркавіцкай організацыі КП(б)Б правы опортунізм пусьціў глыбокія карэньні, цэлы шэраг ячэек КП(б)Б адносіліся прымірэнча да асобных опортуністых, не вялі барацьбы з праявамі пра-

вага опортунізму на практыцы і „левымі" загібамі. Чым як ня правым опортунізмам можна назваць кіраўніцтва ячэек: Прудзінкаўскага, Борказіцкага, Замшанскага і Галубаўскага сельсаветаў, якія разам з с/саветамі ніяк не маглі знайсьці кулакоў і сапраўдных заможнікаў аж да студзеня м-ца 1931 г. і ў то-жа час рабілі перагібы ў адносінах бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і патуралі правым опортуністам.

Другое: Кіраўніцтва Раённага Камітэту КП(б)Б мінулага складу закрывала гэтыя агідныя праявы опортунізму на практыцы, а сучаснае кіраўніцтва РК і РКК КП(б)Б хаця і са спазьненьнем узялося за разаблачэньне і выкарчоўваньне опортуністычнай практыкі.

Трэцяе: Райсуд, які павінен зьяўляцца надзейнай, вострай зброяй партыі і Савецкай улады ў справе барацьбы за рэволюцыйнаю законнасьць і весьці няшчадную барацьбу з агентамі клясавага ворага, на самай справе змазвае судовыя справы, спасылаючыся на формальны бок—за літарай закону ня бачыць клясавай сутнасьці справы (справа Клімовіча, Ільляшэвіча, Берніка, Суетава і г. д.).

Памянёныя вышэй факты кажуць нам аб тым, што, ня гледзячы на толькі што праведзеную частку партыі, у партыі засталіся агенты клясавага ворага, якія шкодзяць нам.

Той факт, што на працягу шэрагу гадоў і да апошняга часу ў парторганізацыі былі былыя буйныя арандатары, кулакі сьведчыць нам аб слаба разгорнутай самакрытыцы як у парторганізацыі, так і сярод бядняцка-серадняцкага сялянства раёну. Гэтае становішча патрабуе шырокага разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі, узмацненьня сыстэматычнай работы сярод беднаты па выяўленьні і выпраўленьні памылак, якія яшчэ маюцца ў асобных зьвеньнях парторганізацыі.

Неабходна павесьці яшчэ больш рашучую барацьбу з праявамі правага ўхілу з „левымі" загібамі, разаблачаць опортуністых усіх колераў, весьці барацьбу за генэральную лінію партыі, за ажыцьцяўленьне задач соцыялістычнага будаўніцтва, за колектывізацыю і на яе аснове—ліквідацыю кулацтва, як клясы.

Трэба проста сказаць, што, ня гледзячы на наяўнасьць добрых умоў, прыліў у колгасы, які зараз наглядаецца ў раёне, у даволі значнай частцы зьяўляецца самацёчным.

Неабходна яшчэ больш павесьці штодзённую растлумачальную работу сярод беднаты, серадняцтва па колектывізацыі сельскай гаспадаркі, асабліва зьвярнуўшы ўвагу на працу сярод жанчын, бо тут мы маем самы слабы вучастак нашай работы.

Толькі такім шляхам мы зможам забясьпечыць неабходныя для нас тэмпы соцыялістычнага наступу па ўсяму фронту і ўздыму таварнасьці с/г. на базе колектывізацыі і яе хутчэйшую спэцыялізацыю.

---

# КРЫТЫКА і БІБЛІОГРАФІЯ

**Л. Рудзіцкі**

А. Сташэўскі. *Як работніца і сялянка кіруе СССР.* Белдзяржвыдавецтва. 60 стар. Менск 1928 г.

Брошура А. Сташэўскага „Як работніца і сялянка кіруе СССР“ прысьвечана ў асноўным пытаньню аб удзеле працоўных жанчын у Савецкай сыстэме. Адначасова аўтар дае асьвятленьне асноўных прынцыпаў савецкай канстытуцыі, коратка характарызуе структару і компэнтэнцыю вышэйшых органаў улады і прыводзіць параўнаньне паміж савецкай дэмократыяй—як дэмократыяй для працоўных і так званымі „свабодамі“ буржуазнага парлямантарызму.

Праца Сташэўскага напісана вельмі популярна і разьлічана на малападрыхтаванага слухача.

Аднак, у кніжцы Сташэўскага маюцца значныя недахопы і вялікія памылкі; яны датычацца, галоўным чынам, асноўнага разьдзелу, які носіць загаловак: „Хто кіруе Савецкай дзяржавай“

Характарызуючы савецкую сыстэму, аўтар зусім абыходзіць пытаньне аб тым, што яна зьяўляецца формай дыктатуры пролетарыяту. У кніжцы вы нават ня знойдзеце растлумачэньня формулы „дыктатура пролетарыяту“; прыблізна палова адной старонкі з 60-ці старонак усёй кнігі прысьвечана пытаньню аб саюзе рабочых з працоўным сялянствам; некалькі слоў сказана аб большай здольнасьці рабочых да кіраўніцтва дзяржавай, але чоткага і выразна акрэсьленага аналізу клясавай сутнасьці савецкай сыстэмы ў кніжцы няма. Наадварот, вы можаце знайсьці формуліроўкі, якія ў палітычна малападрыхтаванага чытача могуць вызваць ўяўленьне аб тым, што ў савецкай сыстэме нібы існуе *падзяленьне ўлады* паміж рабочай клясай і сялянствам. Напрыклад, на старонцы сёмай маецца наступная формуліроўка: „як работніца кіруе горадам, а сялянка вёскай“.

Ніводнай старонкі ў кніжцы аўтар не адводзіць характарыстыцы „прывадоў“ сыстэмы дыктатуры пролетарыяту. Аўтар напісаў аб саветах, але чамусьці забыў аб профсаюзах, коопэрацыі, комсамоле і іншых грамадзкіх організацыях. Аўтар ня прыводзіць ніводнай думкі нашых правадыроў па гэтаму пытаньню, у той час, як ніхто іншы, як Ленін казаў, характарызуючы нашу сыстэму: „нельга ажыцьцяўляць дыктатуру бяз некалькіх „прывадоў“ ад авангарду да масы перадавой клясы, а ад ёй да масы працоўных“.

Таксама тав. Сталін піша: „гэтыя „прывады“, рычагі і накіроўваючая сіла неабходны пролетарыяту таму, што бяз іх ён аказаўся-б у сваёй барацьбе за перамогу ў становішчы абязброенай арміі перад тварам організаванага і ўзброенага капіталу“.

Тав. Сташэўскі абышоў ролю азначаных організацый у нашай дзяржаўнай сыстэме; гэта зьяўляецца значным недахопам яго працы.

Але, што робіць яго кніжку асабліва шкоднай, дык гэта тое, што аўтар поўнасьцю змазаў кіраўнічаю ролю комуністычнай партыі ў сыстэме савецкай улады. Аўтар нічога не сказаў аб тым, чаму „толькі партыя пролетарыяту, толькі партыя комуністаў, здольна выканаць гэту ролю асноўнага кіраўніка ў сыстэме дыктатуры пролетарыяту" (Сталін)

Аўтар ніводнай старонкі не прысьвяціў асьвятленьню пытаньня аб тым, што ў нашай краіне—„дыктатуру ажыцьцяўляе організаваны ў саветы пролетарыят, якім кіруе комуністычная партыя" (Ленін).

Наша рэцэнзія напісана аб другім выданьні кніжкі тав. Сташэўскага; на яе вокладцы гаворыцца, што яно *„папраўленае"*. Але, як мы бачым, у тэксьце *гэта* не адчуваецца.

Кніжка дае няпоўнае і няправільнае разуменьне шырокім колам савецкага актыву аб сутнасьці сыстэмы дыктатуры пролетарыяту. Гэта праца тав. Сташэўскага зьяўляецца яскравым прыкладам таго, як нельга пісаць масавую літаратуру па „вучэньні аб савецкай дзяржаве".

---

# Зьмест

*Стар.*